# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 39 (2285) 24 верасня 1992 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 50 кап. (па падпісцы — 8 кап.).


## МАКСІМУ ТАНКУ СПОЎНІЛАСЯ 80 ГАДОЎ



Дзень свайго 80-годдзя Максім Танк назваў трывожным. Значныя юбілеі чалавек найчасцей адзначае ў пару, калі большая частка жыцця засталася ззаду. У паэта ёсць унукі і праўнукі, напісаны дзесяткі кніг, ён вядомы... Але ж ужо гняце боль незваротных страт, перажытае і выпакутаванае, трывога, выкліканая бязладдзем і неразумнасцю нашага сённяшняга жыцця.

У багатым і доўгім жыцці былі радасць маладога кахання, небяспека і мужнасць падпольнай барацьбы ў былой Заходняй Беларусі, калі свята верылася, што ён здабывае лепшую долю для свайго народа. І чалавек, які змагаўся ў той час з ім побач, сёння гаворыць: «Дай Божа, каб мы ўсе былі такімі, як ён. Час усё паставіць на сваё месца, кожны зойме і ў гісторыі, і ў літаратуры менавіта тое месца, якое яму належыць. Народ бурліў, Танкавы вершы былі нарасхват, бо паэт улоўліваў настрой людзей, ведаў пра іх беды».

Мінула паўстагоддзя, але паэт па-ранейшаму «ўлоўлівае» самае важнае ў нашым жыцці, дзеліцца з людзьмі сваёй мудрасцю. Можна спрачацца, прымаць ці не прымаць тую форму, якая адрознівае яго вершы апошніх гадоў, але ў кожным творы глыбокая філасофія, асэнсаванне з'явы, запавет наступным пакаленням. У верасьнёўскіх нумарах «Полымя» і «Беларусь» друкуюцца новыя вершы Максіма Танка. Чатыры новыя свае творы паэт перадаў і «Голасу Радзімы». Ідучы па іх, каля ліфта сустрэлася з Барысам Сачанкам, які прыходзіў павіншаваць старэйшага калегу з юбілеем. «Ён вас чакае,— сказаў Б. Сачанка.— Прачытаў падрыхтаваныя вершы. Добрыя вершы, вельмі добрыя. Столькі перажыў чалавек за апошні час, а ўсё ж піша. Ды яшчэ і жартуе».

«Голас Радзімы» сардэчна віншуе Максіма Танка з яго выдатным юбілеем і жадае яму доўгага жыцця і плёну ў творчасці.

Артыкул Максіма ЛУЖАНІНА «ГРОЗНАЕ І ВЕЛЬМІ ДОБРАЕ ІМЯ», прысвечаны юбіляру, і новыя вершы Максіма ТАНКА змешчаны на 7-й стар.

Дзіяна ЧАРКАСАВА.

## БОГУ—БОГАВА, А КЕСАРУ—КЕСАРАВА

# НЕ ДАПУСЦІЦЬ ДУХОЎНАГА РАСПАДУ

16 верасня, незадоўга да святкавання 1000-годдзя стварэння Полацкай епархіі, Беларуская праваслаўная царква правяла прэс-канферэнцыю. Як чалавек напярэдадні важнай падзеі імкнецца выспаведацца і аддаць даўгі, так, здаецца, і айцы нашай царквы не захацелі, каб непаразуменні і недамоўленасці азмрочылі надыходзячы юбілей. І запрошаныя журналісты амаль усіх значных беларускіх выданняў, а таксама тэлебачання і радыё поўнасцю выкарысталі гэтую магчымасць, задаючы пытанні па праблемах, значна шырэйшых за абвешчаную тэму — 1000-годдзе хрышчэння Беларусі. Трэба адзначыць і яшчэ адну адметную рысу гэтай падзеі: нягледзячы на тое, што да ўдзелу ў прэс-канферэнцыі былі запрошаны і людзі свецкія (можна было звяртацца з пытаннямі да вядомых навукоўцаў, а таксама да міністра інфармацыі Анатоля Бутэвіча і намесніка міністра культуры Уладзіміра Рылаткі), асноўная колькасць пытанняў была звернута да Мітрапаліта Мінскага і Гродзенскага, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі Філарэта. У пачатку прэс-канферэнцыі журналістам расказалі пра тое, дзе і як будуць праходзіць святочныя падзеі і чаму юбілей вырашана адзначыць менавіта зараз.

Было, канешне, узнята і пытанне мовы, на якой вядуцца набажэнствы. Як было сказана, паступова царква выпраўляе памылкі мінулага, калі не звярталася належнай увагі на выкарыстанне нацыянальнай мовы ў рэлігійным жыцці. І вельмі верагодна, што ў бліжэйшы час мы зможам пачуць у нашых храмах пропаведзі па-беларуску. «Змяняюцца абставіны жыцця, і мы адчуваем, што без гэтага культурнага пласта адраджэнне царквы будзе немагчымым».

(Заканчэнне на 4-й стар.).

## НА XX СУСТРЭЧЫ БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЙ АМЕРЫКІ




# РАДЗІМА. ДАБРАБЫТ. НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ

У папярэднім нумары мы паведамлялі пра XX сустрэчу беларусаў Паўночнай Амерыкі і пра віншаванне, якое накіраваў ёй Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч. Сёння мы публікуем нататкі аб ходзе сустрэчы і яе выніках Уладзіміра НАВІЦКАГА, намесніка старшыні праўлення таварыства «Радзіма», які прымаў удзел у рабоце XX сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі па запрашэнню Беларуска-амерыканскага задзіночання (БАЗА).

НА ЗДЫМКУ: XX сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі. Выступае міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь Пётр КРАЎЧАНКА.

Фота Анатоля АБРАМЧЫКА.

(Заканчэнне на 4-й стар.).

МІНСК. ПЛОШЧА НЕЗАЛЕЖНАСЦІ



У Мінску на плошчы Незалежнасці адбыўся мітынг, арганізатарам якога выступіў Каардынацыйны камітэт грамадскіх і палітычных рухаў Рэспублікі Беларусь. Мэта яго — звярнуцца да Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў рэспублікі з прапановай вырашыць пытанні сацыяльнай абароны працоўных, пенсійнага забеспячэння ваеннаслужачых запасу, ветэранаў вайны і працы.
НА ЗДЫМКУ: у час мітынгу.

*«Надзеі на доўгачаканае аб'яднанне былі растаптаны сталінскім рэжымам. Хаця рэпрэсіі і масавая дэпартацыя закранулі ўсе нацыянальныя супольнасці Заходняй Беларусі (найперш палякаў), але для беларусаў яны аказаліся найбольш адчувальнымі, бо знішчалася самая свядомая іх частка — інтэлігенцыя. Невераготная рэч: знішчалі тых, хто ва ўмовах гвалтоўнай паланізацыі перашкаджаў гэтаму.*

*1939 год — гэта не толькі аб'яднанне беларусаў, але і страта найбольш значнага гістарычнага і культурнага цэнтра — Вільні, аб якой наш паэт Уладзімір Жылка пісаў: «О, Вільня, крывіцкая Мэкка! О, места — усё цуд, хараство!» Імперскімі інтарэсамі кіравалася Масква, перадаючы 10 кастрычніка 1939 года Віленшчыну Літве, ігнаруючы этнаграфічны прынцып (паводле перапісу насельніцтва 1897 года, там пражывала 56 працэнтаў беларусаў, 17,6 працэнта літоўцаў, 12,7 працэнта яўрэяў, 8,2 працэнта палякаў, 4,9 працэнта рускіх). Цяпер сталінскі рэжым хацеў выглядаць месіяй у вачах літоўцаў».*

*Аляксандр ВАБІШЭВІЧ, выкладчык кафедры беларусазнаўства Брэсцкага педінстытута.*

ЗВАРОТ БЗВ

## ДЗЕНЬ АБ'ЯДНАННЯ

**Выканаўчы Савет Беларускага згуртавання вайскоўцаў прыняў зварот да ваеннаслужачых, воінаў запасу і грамадскасці Рэспублікі Беларусь у сувязі з гадавінай аб'яднання БССР з Заходняй Беларуссю ў 1939 годзе. У звароце падкрэсліваецца, што аднаўленне гістарычнай справядлівасці ў выніку ўз'яднання беларускага народа адыграла станоўчую ролю ў справе развіцця культуры, захавання гістарычнай спадчыны і адраджэння нацыянальнай самасвядомасці насельніцтва, стварыла перадумовы для станаўлення дзяржаўнасці Беларусі. Беларускае згуртаванне вайскоўцаў вініша ўсіх суайчыннікаў з гадавінай знамянальнай падзеі ў гісторыі беларускага народа і заклікае ўсе патрыятычныя сілы мацаваць эканамічны патэнцыял рэспублікі, кансалідавацца і прыкласці максімум намаганняў для зацвярджэння поўнай дзяржаўнасці, суверэнітэту і незалежнасці Рэспублікі Беларусь.**

АПАЗІЦЫЯ

## БНФ І РЭФЕРЭНДУМ

**«Беларусь першай сярод паствавецкіх краін мае шанц перайсці да дэмакратыі мірным канстытуцыйным шляхам, захаваўшы грамадскі спакой», — гаворыцца ва ўхвале апошняга пасяджэння Сойму БНФ. Народны фронт пацвердзіў, што лічыць правядзенне рэферэндуму прыярытэтам сваёй палітычнай дзейнасці. Дзеля таго каб мець гарантаваную перспектыву ў новым парламенце, БНФ схільны стварыць блок дэмакратычных сіл, у які ўвайшлі б лібералы, сацыял-дэмакраты, сялянская партыя, хрысціянскія дэмакраты і нацыянал-дэмакраты.**

**Народны фронт будзе імкнуцца забяспечыць магчымасць міжнароднага кантролю за сітуацыяй вакол рэферэндуму ў Беларусі.**

ПРЫЗНАЧЭННІ

## ПАСОЛ ПА АСОБЫХ ДАРУЧЭННЯХ

**Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь прызначыў Агурцова Станіслава Сяргеевіча паслом па асобых даручэннях.**

**Тым жа ўказам Агурцоў С. прызначаны кіраўніком дэлегацый Рэспублікі Беларусь на перагаворах па дэлімітацыі і дэмаркацыі межаў з Літоўскай Рэспублікай і Латвійскай Рэспублікай.**

НОВАЕ ВЫДАННЕ

## «ВІЛЬНЯ І КРАЙ»

**Выйшаў у свет першы нумар новага беларускага тыднёвіка «Вільня і край». Ён разлічаны на беларускага чытача ў Літве і цалкам прысвечаны жыццю беларускай супольнасці Віленскага краю. Новае выданне расказвае пра клопаты наших суайчыннікаў: нацыянальную асвету, праблемы беларуска-літоўскай дзяржаўнай мяжы, багатыя традыцыі віленскай беларушчыны...**

**Ажыццяўляе выданне тыднёвіка рэдакцыя віленскай беларускай газеты «Наша ніва», а друкуецца ён у двух варыянтах — кірыліцай і лацінкай.**

СТЫХІЯ

## ПРАНОСЯЦЦА ЎРАГАНЫ

**Пасля спякотнага лета і небывалай колькасці пажараў Беларусь апанавалі ўраганы. Яны праносяцца то ў адным, то ў другім канцы рэспублікі. У першай палове верасня ўраган небывалай сілы нарабіў бяды ў Валожынскім раёне — страты, прынесеныя ім, складаюць дзесяткі мільёнаў рублёў. На шчасце, людзі не пацярпелі.**

**Такой жа моцы стыхія абрынулася і на смаргонскія вёскі. Зруйнаваны Ардашы — цэнтр калгаса «Расія», моцна пацярпелі Біцянеты, Чатыркі, Арляняты. 72 індывідуальныя гаспадаркі панеслі вялікія страты, разбураны дамы і гаспадарчыя пабудовы. Многія людзі паранены. Страты, як падлічыла спецыяльная камісія, перавышаюць 25 мільёнаў рублёў.**

ПАМЯЦЬ

## «АСАЦЫЯЦЫЯ ПОШУКАВЫХ АБ'ЯДНАННЯЎ»

**На ўстаноўчай канферэнцыі ў Мінску была заснавана «Асацыяцыя пошукавых аб'яднанняў».**

**Удзельнікі канферэнцыі вырашылі, што асацыяцыя атрымае назву «Народны саюз па ўвекавечанню памяці паўшых абаронцаў Айчыны і ахвяр войн», таму што яна будзе займацца пошукам астанкаў воінаў, зброі і баявой тэхнікі, пачынаючы з часоў, калі Напалеон быў на Беларусі.**

**Дарэчы, за сем гадоў пошукаў удзельнікамі канферэнцыі знойдзена каля 33 тысяч астанкаў загінуўшых салдат, у асноўным, праўда, у часы Вялікай Айчыннай вайны.**

**Пакуль што пошукі плануецца праводзіць на тэрыторыі Беларусі, але ўжо ёсць дамоўленасці аб супрацоўніцтве і з арганізацыямі іншых краін.**

ПАД ФЛАГАМ ААН



**На адным з дамоў у цэнтры вуліцы Кірава ў Мінску развяваецца вядомы ўсяму свету блакітны флаг Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Тут адбылося ўрачыстае адкрыццё аддзялення ААН, пя ўваходу ў якое чырвоную рытуальную стужку разрэзаў адміністратар праграмы развіцця ААН Уільям Дрэйпер, які спецыяльна прыбыў з Нью-Йорка.**

**— Беларусь першай з краін Садружнасці мае ў сябе наша прадстаўніцтва, — сказаў высокі госць. — І першай атрымлівае тэхнічную дапамогу АНН/ПРААН. У гэтай сувязі вашай рэспубліцы выдзелена 1,3 мільёна долараў. Мы ставім сваёй мэтай падтрымку намаганняў Беларусі, накіраваных на вырашэнне праблем эканамічнага развіцця, пераход да рынкавай сістэмы гаспадарання, паскарэнне сацыяльнага прагрэсу, павышэнне ўзроўню жыцця яе грамадзян і, самае галоўнае, дапамогу ў пераадоленні вынікаў чарнобыльскай катастрофы.**

**Уільям Дрэйпер падкрэсліў, што за апошнія два гады краіны СНД хутка ідуць наперад па шляху дэмакратыі і абароны правоў чалавека. Сведчанне таму—сённяшняя цырымонія. Ён заявіў, што паступова ў Мінск прыедуць іншыя арганізацыі ААН. Такія, як ЮНЕСКА і Фонд планавання сям'і. Перасяліцца з Вены ў беларускую сталіцу і Камісія ААН па праблемах аварыі на ЧАЭС. Гэта пацвердзіў яе старшыня Геральд Хінтэрэгер.**

З ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫІ

## КАБ ПАЧАЛІ З СЯБЕ...

Адбылася прэс-канферэнцыя пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны, на якую былі запрошаны прадстаўнікі рэспубліканскіх газет, радыё і тэлебачання. Такая сустрэча супрацоўнікаў камісіі з журналістамі адбылася ўпершыню і была выклікана вельмі цяжкім становішчам, у якім зараз апынулася беларуская культура і адукацыя. Так, старшыня камісіі народны паэт Ніл Гілевіч паведаміў журналістам, што з трох законаў, прапанаваных камісіяй на разгляд чарговай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, быў пакінуты адзін, а ў дзень прэс-канферэнцыі (10 верасня) на канусультацыйным савеце паступіла прапанова ад штатных супрацоўнікаў Вярхоўнага Савета зняць з парадку дня сесіі і гэты адзіны закон. Матывіроўка: сёння ёсць больш значныя пытанні ў сацыяльнай і эканамічнай сферах жыцця рэспублікі. Аднак, як заўважыў Ніл Гілевіч, пакуль да культуры і адукацыі ў нас будуць ставіцца, як да нечага другараднага, не будзе прагрэсу ні ў палітыцы, ні ў эканоміцы. Законы, якія прапаноўвае камісія, прымаюцца вельмі марудна, а тыя, што ўсё ж такі былі прыняты, не выконваюцца. Такі лёс напаткаў, напрыклад, закон аб адукацыі, на правядзенне якога ў жыццё проста няма сродкаў.

Вельмі многа ўвагі было нададзена закону аб мове.

— Чаму б усё ж не зрабіць дзяржаўнымі дзве мовы — беларускую і так шырока распаўсюджаную ў рэспубліцы рускую? — гэтае пытанне зноў было ўзнята журналістамі на прэс-канферэнцыі.

— Таму,— адказаў Ніл Гілевіч,— што наша мова аказалася ў становішчы, калі яе трэба ратаваць. Калі руская мова, не з'яўляючыся дзяржаўнай, амаль звяла на нішто беларускую, то што ж будзе, калі мы яе абвясцім дзяржаўнай? Калі беларуская мова ў Беларусі зойме тое месца, якое ў Расіі займае руская, на Украіне — украінская, у Малдове — малдаўская, тады хай дзяржаўнымі ў нас будуць хоць тры ці чатыры мовы. А зараз,— працягваў старшыня камісіі,— прапановы правесці рэферэндум аб роднай мове выглядаюць прыкладна так, як прапановы правесці грамадскае апытанне аб тым, быць тваёй маці роднай ці не.

Было ўзнята і такое пытанне: ці не занадта доўгі тэрмін для рэалізацыі закона аб мове 10 год?

— Вяртанне мовы — справа вельмі складаная. У іншых рэспубліках таксама спачатку ўзнімалася моўнае пытанне, а потым — лілася кроў. Таму тут немагчымы паспешлівыя рашэнні. Да таго ж, мова належыць да вечных катэгорый, а дзесяць год для вечнасці — тэрмін ніякі. Толькі, дай Божа, гэты тэрмін правільна рэалізаваць. Галоўная ж бяда,— падкрэсліў Ніл Гілевіч,— заключаецца ў тым, што прыклад невыканання гэтага закона падаюць тыя, хто павінен быў бы выконваць яго ў першую чаргу — Вярхоўны Савет, Савет Міністраў, урад. Каб на самым высокім узроўні выкананне прынятых Вярхоўным Саветам законаў пачалі з сябе, справа рухалася б хутчэй.

Было закранута пытанне і аб стварэнні нацыянальнай сістэмы адукацыі. Беларусь не збіраецца ствараць нешта такое, чаго яшчэ не было ў свеце. Трэба цягнуцца да лепшых заваёў педагогікі і школьнай справы іншых краін і пры гэтым узяць лепшае з нашых нацыянальных здабыткаў, каб той, хто атрымлівае адукацыю, адчуў сябе грамадзянінам з сапраўдным жаданнем служыць сваёй Радзіме, зыходзячы з нацыянальных інтарэсаў.

Прэс-канферэнцыя працягвалася значна больш за запланаваную гадзіну, і на заканчэнне яе Ніл Гілевіч выказаў надзею, што такія сустрэчы цяпер будуць рэгулярнымі, і журналісты — а значыць, і чытачы — змогуць часцей атрымліваць інфармацыю аб дзейнасці камісіі.

**В. АНАТОЛЬЕВА.**

*РЭПАРТАЖ З «КАМУНАРА»*

# II. НА ГЭТАЙ ВЕЧНАЙ ЗЯМЛІ



Буйныя кроплі расы блішчэлі пад промнямі сонца, якое толькі-толькі падымалася над гарызонтам. На луг не ступіць: адразу намочыш ногі.

І толькі коням хоць бы што, ходзяць па высокай траве, пракладваюць дарожкі па расе. Часам нейкая жывёліна падымае галаву і запытальна паглядае ў наш бок: ці не пакліча яе конюх.

Сямён Генец жартаўліва пагражае пальцам у бок сваволніка:

— Я так дам. Бач ты, прывучыў на сваю галаву да ласункаў, цяпер, нібы той сабака, будзе за табой хадзіць: не адчэпіцца, пакуль не пачастуеш.



А частуе конюх жывёлін то драбком цукру, то лустачкай хлеба, добра пасыпанаю соллю. Любіць Сямён Генец коней. Ды і тыя адказваюць яму ўзаемнасцю. Бачыў, калі аднаму з маіх землякоў спатрэбілася прывезці саломы з поля, конюх падазваў гнядога каня, і той хуценька даўся ў рукі.

На хвілінку акунаюся ва ўспаміны. Напачатку ў «Камунары» коней было многа. Потым іх замяніла тэхніка. І некаму здалося, што без гэтых памочнікаў можна абысціся. Асабліва шмат надзей ускладвалася на мінітэхніку. На жаль, усё аказалася больш складаным, чым думалася: і з палівам дэфіцыт, і запчастак не набыць ды яшчэ, і не ўсё зробіш на тых «міні».

Тым часам у калгасе зачыняліся канюшні, ці выкарыстоўвалі іх не па назначэнню—больш займалі пад склады.

Надыходзіла пасадка або ўборка бульбы. Тады хоць сам у плуг запрагайся. Днямі і тыднямі прыходзілі людзі ў брыгаду, а чарга на каня не змяншалася да самых замаразкаў. Лаянка мужчын, плач і праклёны жанчын... Трэба было мець каменнае сэрца, каб бачыць усё. І такая карціна кожны год.

Тады ўсе зразумелі, што неабходна адраджаць конегадоўлю. І першым энтузіястам гэтай так патрэбнай справы стаў цяперашні старшыня калгаса «Камунар» Светазар Грэйба.

Пачынаць прыйшлося літаральна з нуля. У Беларусі цяжка было знайсці добрых пародзістых коней. І Светазар Іосіфавіч адшуквае іх у Малдавіі, Львове, Растове, Латвіі.

...Неяк гадоў сем назад сустракаюся з двума суседзямі-землякамі. І стаў сведкам прыкладна такога дыялога.

— У калгасе Леніна (гаспадарка на Навагрудчыне.—**Я. Т.**) пра Светазара Іосіфавіча добрая слава ішла. Працаваў намеснікам старшыні. Ашчадны, на вецер капейку не выкіне. А як прыйшоў да нас кіраўніком, то пустую справу задумаў: на коней гэтулькі грошай аддаў нашых, і ўсё для забавы,—казаў дзядзька Мікалай.

— Чаму не завесці: ягоныя ж дзеткі на іх катаюцца цяпер. Старшыня—сам сабе галава, што захоча, тое і зробіць,—падтакваў яму стары селянін Іван.

...Што праўда, то праўда. Напачатку не разумелі калгаснікі задумы старшыні, ставіліся да яго планаў адмоўна. А тут яшчэ ў сёдлах «ягоныя дзеці».

Хутка ў вёсцы Поўбераг адкрыўся конна-спартыўны комплекс. Каля пяцідзесяці мясцовых хлопчыкаў вучыліся тут пад кіраўніцтвам вопытных трэнераў. Імёны іх добра вядомыя за межамі нашай Беларусі. Гэта чэмпіён Ленінграда Уладзімір Грышкевіч. Ён раней займаўся конным спортам у Ратамцы пад Мінскам. А Ірына Козіна — майстар спорту з Украіны.

Трэнеры ўсю душу ўкладвалі ў падрыхтоўку вясковых коннікаў, вазілі іх на спаборніцтвы. І хутка ў «Камунары» з'явіліся першыя разраднікі і майстры: Ігар і Святлана Грэйбы, кандыдацкі нарматыў выканаў Дзмітрый Каратай. Каманда калгаса стала нязменнай удзельніцай усіх буйных спаборніцтваў, што праводзяцца ў Рэспубліцы Беларусь. А гэтым летам прымала ў сябе коннікаў і з іншых краін былога Саюза. Побач з комплексам пабудавана гасцініца на сорак месцаў, ёсць добрае поле для трэніровак. За вопытам арганізацыі такіх комплексаў у «Камунар» прыязджаюць з многіх рэгіёнаў нашай рэспублікі.

Асабліва шмат клопатаў у старшыні Светазара Грэйбы. Яго ўбачыш на экранах тэлевізара ў ролі каментатара рэспубліканскіх спаборніцтваў ці ў ролі спецыяліста, які перадае свой вопыт іншым гаспадаркам. Менавіта ў час нашай камандзіроўкі ў «Камунар» Светазар Іосіфавіч быў у калгасе імя Чкалава на Кобрыншчыне, дзе закладваўся філіял конна-спартыўнага комплексу.

Усім добра вядома, у якую вялікую капейку абыходзіцца ўтрыманне такога комплексу: будаўніцтва канюшняў, закупка пародзістых коней, аплата работы трэнераў, нарыхтоўка кармоў, экіпіроўка спартсменаў і многае іншае. Такое не пад сілу і больш багатым «гаспадарам», чым калгас.

Але «Камунар» не застаўся ў накладзе. Фермы конна-спартыўнага



комплексу сталі цэнтрам развядзення коней для ўсяго калгаса. Для даведкі: па колькасці коней на адзін квадратны кіламетр калгас займае першае месца ў Беларусі. Цяпер тут 360 адзінак гэтых жывёлін. Селекцыяй калгасных спецыялістаў зацікавіліся за мяжой. І вось ужо першыя коні былі закуплены Італіяй, Польшчай, Германіяй.

— За іх мы атрымалі каля 27 тысяч долараў,—расказвае намеснік старшыні калгаса Дзмітрый Федаровіч. На гэтыя грошы набудавалі асфальтавы завод, заасфальтавалі ўсе вуліцы ў вёсках «Камунара». Калі браць агульны прыбытак за час існавання комплексу, то ён складае 753 тысячы рублёў. А заказаў не змяншаецца. Вось ужо прыязджалі ці прыслалі свае заяўкі на набыццё ў нас коней з Англіі, Бельгіі, Чэхаславакіі...

Так, конегадоўля ў «Камунары» адрадзілася. Табуны гэтых жывёл пасвяцца сёння паўсюль: на берагах Валаўкі і Асы, ля Асташына, Поўберага, Нянькава, ля іншых вёсак. Пабольшала іх і ў іншых гаспадарках Навагрудчыны. Праўда, адраджэнне конегадоўлі выклікала і пэўныя праблемы. Скажам, у свой час, калі стаўка рабілася не на каня, а толькі на тэхніку, многа пашы ў раёне адышло пад ворыва—зменшылася лугоў. Ці яшчэ. Зноў з'явіліся коні, а на калгасным двары цяжка знайсці плуг, воз. Купіць жа гэты воз каштуе... 16 тысяч рублёў! Няма хамутоў, дуг...

Але праўду кажуць людзі: была б каша, а лыжка знойдзецца. Адродзяцца ў калгасе і народныя промыслы, знойдуцца спецыялісты, якія зробяць і воз, і дугу, выкуюць плугі і іншы сельскагаспадарчы інвентар. Зроблена вялікая справа, меншая ж—прыкладзецца.

**Яўген ТУРАЙКЕВІЧ.**






**НА ЗДЫМКАХ:** калгасныя спартсмены на трэніроўцы; майстар спорту Ірына КОЗІНА; пасуцца коні на беразе Асы; Уладзімір ГРЫШКЕВІЧ з Графікам. За гэтага каня англійскія, галандскія, бельгійскія бізнесмены прапаноўваюць 40 тысяч долараў.

Фота Віктара СТАВЕРА.

# НЕ ДАПУСЦІЦЬ ДУХОЎНАГА РАСПАДУ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Пацікавіліся журналісты і тым, якая роля на сваце адводзіцца прадстаўнікам іншых канфесій.

— Мы запрашаем іх на наша свята ў спадзяванні, што яны будуць радавацца яму разам з намі, як радуюцца добрыя суседзі.

Дарэчы, на юбілей будуць запрошаны прадстаўнікі ўсіх існуючых на Беларусі рэлігійных канфесій, і падзея гэтая, здаецца, значна вышэйшая за ўсе разнагалоссі паміж імі, і як у старажытнасці на час Алімпійскіх гульняў спыняліся войны і дараваліся абразы, так і зараз вернікам самых розных веравызнанняў даецца магчымасць знайсці паміж сабой агульную мову. Вельмі хочацца, каб менавіта так і адбылося, таму што адным з найбольш значных пытанняў прэс-канферэнцыі была размова аб матэрыяле, надрукаваным нядаўна ў рэспубліканскай газеце «Літаратура і мастацтва», дзе ўладыка Філарэт быў названы прадстаўніком іншай краіны. З нагоды гэтага артыкула свяшчэннікі Беларускага Экзархата прынялі зварот да кожнага сумленнага жыхара Беларусі. У ім гаворыцца: «На адвечную Божую святыню — Праваслаўную царкву на Беларусі — і яе вернікаў падымаецца антыхрыстава навала. І гэта, на жаль, вельмі часта робіцца розумам і сумленнем тых, каму Бог Слова дараваў талент несці свайму народу слова творчае, стваральнае, слова чыстае і шчырае. Маючы дачыненне да Бога і Ягонай царквы толькі як змагары супраць, ня ведаючы тысячагадовай духоўнай спадчыны беларускага народа, ня бачачы ягоных сённяшніх душэўных пакут і спакусаў, яны мэтанакіравана вядуць барацьбу супраць Хрыстовых архіпастыраў і святароў, якія, нягледзячы на абразу і супрацьстаянне гэтых сіл, адбудоўваюць святыя храмы і навучаюць наш народ святасці жыцця. Няўжо для тых, хто толькі лічыць сябе навуковай і культурнай інтэлігенцыяй, гэтыя нябожыя дзеянні і ёсць беларускае Адраджэнне?» Пасля таго, як такім чынам газета «Літаратура і мастацтва» была публічна аддадзена анафеме, мітрапаліта папрасілі растлумачыць пытанне аб падпарадкаванні Беларускай царквы Маскоўскаму патрыярхату.

— Так,— адказаў мітрапаліт Філарэт,— на тэрыторыі рэспублікі сінодам зацверджаны Беларускі экзархат Маскоўскага патрыярхата, які распаўсюджваецца на ўсю тэрыторыю былога Саюза, і зараз яго межы не змяняюцца, нягледзячы на перамены ў палітычным жыцці і стварэнне незалежных дзяржаў і рэспублік. Святая апостальская царква адзіная, і нельга па аналогіі з падзяленнем і распадам тэрытарыяльным імкнуцца да распаду духоўнага — гэта катастрофа! Чаму ні ў кога не ўзнікае пытанняў да рымска-каталіцкай царквы, якая з'яўляецца адзінай царквой на ўсім зямным шары з цэнтрам у Ватыкане? І нікога не хвалюе тое, што ў Мінску ўспамінаецца Папа Рымскі. А калі памінаецца патрыярх Маскоўскі, то гэта ўспрымаецца як сведчанне таго, што вернікі Беларусі падпарадкоўваюцца іншай дзяржаве? Я лічу, што ўсе гэтыя праблемы штучныя, а наш Беларускі экзархат Маскоўскага патрыярхата з'яўляецца самастойнай адзінкай і мае роўнае права звацца і Беларускай праваслаўнай царквой.

Можа, па-іншаму зараз і немагчыма, але амаль усе пытанні ў той ці іншай ступені кранала праблемы палітыкі. Была гаворка і пра тое, што ў апошні час усё часцей і часцей да мітрапаліта звяртаюцца прадстаўнікі розных партый і палітычных накірункаў са сваімі прапановамі.

—... І я ўсім ім гавару — пакіньце нас, калі ласка. Мы атрымалі свабоду жыць і маліцца, не ўмешвайцеся ў наша жыццё і не ўцягвайце нас у свае палітычныя гульні. Людзі, якія не маюць ніякага ўяўлення ні пра царкву, ні пра рэлігію, нават правільна перахрысціцца не могуць, з апломбам патрабуюць, каб мы сталі на іх бок.

Калі стала здавацца, што журналісцкія пытанні ў рэшце рэшт канчаюцца і прэс-канферэнцыя блізіцца да завяршэння, чарговы ваяўнічы бязбожнік задаў пытанне, якое надало ёй новы імпульс.

— Грамадская думка ў апошні час вельмі ўзрушана пытаннем пра тое, што даволі значная частка праваслаўных іерархаў супрацоўнічала з КДБ. Называюць у іх ліку і вас, спадар прапаведнік. У гэтых паведамленнях вы фігуруеце пад прозвішчам Астроўскі...

— Я скажу,— адказаў мітрапаліт,— што гэта яскравы прыклад таго, як стараюцца ўцягнуць царкву ў кантэкст палітычных гульняў. Таму заяўляю, што я ніякіх адносін да названай арганізацыі не маю, а тое, што яна называе ў якасці супрацоўнікаў мяне і Уладыку Піцірыма, — гэта яе справа.

На пытанне, ці будзе аддадзены праваслаўнай царкве храм Полацкай Сафіі, намеснік міністра культуры адказаў, што згодна з законам аб ахове помнікаў гісторыі гэта немагчыма. Адносіны ж царквы да гэтай праблемы мітрапаліт Філарэт, хітра ўсміхнуўшыся, выказаў адным словам — «пакуль»...

У сувязі з пачутым хочацца дадаць вось што: падаецца, што ў апошні час нехта прыкладае шмат намаганняў, каб пытанні веры, рэлігіі, а значыць, і сумленне перавесці ў палітычную плоскасць. Ці не нагадвае ўсё гэта нядаўняе мінулае, калі самім вернікам адмаўлялі ў праве вызначаць свой лёс, а рашэнні за іх прымалі тыя, хто не верыў ні ў Бога, ні, прабачце, у чорта. І давайце ўспомнім словы свяшчэннага пісання пра тое, што трэба аддаць Богу — Богава, а кесару — кесарава.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

**НА XX СУСТРЭЧЫ БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЙ АМЕРЫКІ**

# РАДЗІМА. ДАБРАБЫТ. НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

XX сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі адбылася 5—7 верасня гэтага года ў Нью-Брансвіку (ЗША, штат Нью-Джэрсі). А першая такая сустрэча, як расказалі аўтару гэтых радкоў суайчыннікі, была праведзена ў далёкім 1952 годзе каля вадаспада Ніягара па ініцыятыве беларускай моладзі, якая ў часы ваеннага ліхалецця апынулася на чужыне. На юбілейную сустрэчу прыехалі прадстаўнікі беларускіх асяродкаў у ЗША, Канадзе, Бельгіі, Германіі, Польшчы, а таксама госці з Бацькаўшчыны. Сярод іх былі прадстаўнікі афіцыйных улад і грамадскіх арганізацый.

Раніцай у суботу, 5 верасня, удзельнікі і госці сустрэчы прыехалі на беларускія могілкі ў Іст-Брансвіку, дзе мітрапаліт Беларускай Аўтакефальнай праваслаўнай царквы Мікалай правёў памінальную службу па беларусах, пахаваных на гэтых могілках.

Урачыстае адкрыццё сустрэчы адбылося ў прасторнай зале Хаят-гатэля ў Нью-Брансвіку. Яе адкрыў намеснік старшыні Беларуска-амерыканскага задзіночання (БАЗА) Юры Азарка. Ён зачытаў прывітанні ўдзельнікам сустрэчы ад прэзідэнта ЗША Джорджа Буша, губернатара штата Нью-Джэрсі Джыма Флорыё і сенатара ад гэтага ж штата Франка Лаўтэнберга.

Затым з прывітаннем ад старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслава Шушкевіча выступіў пастаянны прадстаўнік рэспублікі ў ААН Генадзь Бураўкін, а міністр замежных спраў рэспублікі Пётр Краўчанка перадаў прывітанне ўдзельнікам сустрэчы ад старшыні беларускага ўрада Вячаслава Кебіча. Дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Валянцін Голубеў выступіў з прывітаннем ад апазіцыі ў беларускім парламенце і сойма БНФ.

Удзельнікаў сустрэчы таксама віталі намеснік старшыні праўлення таварыства «Радзіма» Уладзімір Навіцкі і старшыня клуба «Спадчына» Анатоль Белы. Ён жа зачытаў прывітанне пісьменніка Васіля Быкава, якое надрукавана ў апошнім, шостым, нумары часопіса «Полацак». Прывітанні ад рады Беларускага дэмакратычнага аб'яднання ў Польшчы перадаў Валянцін Сельвясюк, ад аддзела БАЗА ў штаце Нью-Джэрсі — Джон Азарка, ад суполкі беларусаў у Латвіі — Наталля Вярбоўская.

Пасля гэтага адбыўся сімпозіум па асноўнай тэме сустрэчы «Беларусь на шляху да незалежнасці». Першым з дакладам на гэтую тэму выступіў міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь Пётр Краўчанка. Ён падрабязна расказаў аб асноўных напрамках унутранай і знешняй палітыкі беларускага ўрада. Не абмінуў ён і тых цяжкасцей, асабліва ў галіне эканомікі, якія існуюць у цяперашні час на шляху Беларусі да яе поўнай незалежнасці.

Апанентам міністра стаў Валянцін Голубеў, які ў сваім выступленні выказаў вострыя заўвагі ў адносінах палітыкі ўрада рэспублікі. На яго думку, гэтая палітыка не задавальняе насельніцтва Беларусі, аб чым сведчаць вынікі збору подпісаў аб правядзенні рэферэндуму. Крытычна выказаўся ён у адрас кіраўніцтва рэспублікі па пытаннях усталявання межаў з суседнімі дзяржавамі і арганізацыі беларускага войска.

Вячка Станкевіч прыехаў на сустрэчу з Мюнхена, дзе працуе ў беларускай рэдакцыі радыё «Свабода». У сваім дакладзе ён прааналізаваў эканамічнае становішча Рэспублікі Беларусь і адзначыў, што беларуская эканоміка цікавіць замежных прадпрымальнікаў. Але толькі пры стварэнні бяспечных умоў для іх дзейнасці яны будуць рабіць інвестыцыі ў эканоміку рэспублікі. А гэта, у сваю чаргу, залежыць ад таго, ці стане ў бліжэйшы час эканоміка Беларусі незалежнай ад іншых дзяржаў СНД.

Прадстаўнік Беларускай Аўтакефальнай праваслаўнай царквы Васіль Русак прысвяціў сваё выступленне аналізу рэлігійнага працэсу на Беларусі, адзначыў талерантнасць беларускага народа да розных веравызнанняў. Адначасова ён выказаўся супраць знешняга ўмяшання ў рэлігійныя справы на Беларусі з боку царквы суседніх дзяржаў.

Янка Запруднік, супрацоўнік Беларускага інстытута навукі і мастацтва (БІНіМ) у Нью-Йорку, асноўную ўвагу ў сваім дакладзе засяродзіў на тым, «як выпрацаваць нацыянальную ідэю, як з нігілістаў зрабіць беларусаў». Першым крокам у гэтым кірунку, на яго думку, стала навуковая канферэнцыя ў Маладзечне ў жніўні гэтага года, на якой з удзелам навукоўцаў і шырокай грамадскасці рэспублікі і замежжа абмеркаваны шляхі і выпрацаваны рэкамендацыі па развіццю нацыянальнай самасвядомасці ў працэсе фарміравання незалежнай беларускай дзяржавы. Ён падкрэсліў, што неабходна ўзмацняць нацыянальную свядомасць -- унутраныя рэсурсы беларускага народа.

Пасля кароткага перапынку на сустрэчы адбыліся «круглыя сталы», на якіх працягваліся дыскусіі па пытаннях палітыкі, эканомікі, адукацыі, рэлігіі і вынікаў чарнобыльскай трагедыі на Беларусі. Іх вялі Юры Арцюх, Васіль Мельяновіч (ЗША), Галіна Левашкевіч (Беларусь), Мікола Ганько, Івонка Сурвіла (Канада). Аўтар гэтых радкоў прымаў удзел у рабоце «круглага стала» па чарнобыльскай праблеме. Выступаўшыя на ім адзначылі важнасць дапамогі беларускай эміграцыі ў пераадоленні вынікаў чарнобыльскай катастрофы на тэрыторыі рэспублікі. Былі абмеркаваны магчымыя шляхі актывізацыі гэтай гуманістычнай дзейнасці і яе практычныя напрамкі. Адным з іх з'яўляецца прапанова аб дапамозе ў стварэнні ў рэспубліцы дыягнастычна-лячэбных цэнтраў і забеспячэнні іх сучасным медыцынскім абсталяваннем. Гэта прапанова, выказаная мною, была ўключана ў рэзалюцыю сустрэчы.

У той жа дзень адбылася сустрэча былых гімназістаў і настаўнікаў беларускай гімназіі імя Янкі Купалы, якая працавала ў Нямеччыне ў пасляваенныя гады. Былыя вучні і іх настаўнікі падзяліліся цікавымі ўспамінамі з жыцця гімназіі. Была наладжана выстава прац гімназіі, дыпломаў, падручнікаў і фатаграфій. Ян Максімюк з Беласточчыны, які рыхтуе кнігу пра гэтую гімназію, праінфармаваў прысутных аб сабраных матэрыялах.

Як бачна, удзельнікі сустрэчы працавалі напружана. І вельмі дарэчы быў запланаваны для іх у вячэрні час баль, які адбыўся ў зале грамадска-культурнага цэнтра ў Саўт-Рыверы. Тут усе ўдзельнікі і госці мелі магчымасць адпачыць, весці сяброўскія гутаркі са знаёмымі і танцаваць пад музыку аркестра Алеся Марціновіча.

У нядзелю, 6 верасня, удзельнікі сустрэчы прысутнічалі на архірэйскай службе ў царкве Святой Жыровіцкай Маці Божай у Гайлянд-парку, якую служыў мітрапаліт Мікалай.

Затым у гонар удзельнікаў і гасцей сустрэчы быў наладжаны ўрачысты банкет. У час яго ўдзельнікаў сустрэчы віталі прэзідэнт БНР Язэп Сажыч, старшыня БАЗА Антон Шукелойць, старшыня згуртавання «Бацькаўшчына» Яўген Лецка, прадстаўнік БНФ Валянціна Трыгубовіч, намеснік старшыні ТБМ Яўген Цумараў, старшыня фонду дзіцячых культурных ініцыятыў «Дзянніца» Галіна Левашкевіч. З прамовамі выступілі таксама П. Краўчанка, Г. Бураўкін, В. Голубеў, Р. Завістовіч, В. Кіпель.

Рэзалюцыю ўдзельнікаў XX сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі зачытаў Янка Запруднік. У ёй выказаны думкі і спадзяванні беларусаў замежжа аб адраджэнні беларускай дэмакратычнай дзяржавы і правядзенні ёю незалежнай палітыкі. Важнае месца ў ёй адведзена працэсу адраджэння беларускай культуры, а таксама праблеме пераадолення вынікаў чарнобыльскай катастрофы. Удзельнікі сустрэчы выказаліся за развіццё шырэйшых усебаковых сувязей Беларусі з дыяспарай. Падтрымана ініцыятыва аб правядзенні ў 1993 годзе ў Мінску першага сусветнага кангрэса беларусаў.

У заключэнне сустрэчы адбыўся канцэрт, у якім прынялі ўдзел артысты з Бацькаўшчыны Мікалай Скорыкаў, Іна Афанасьева, Таццяна Мархель, Сяржук Сокалаў-Воюш, кампазітар Зміцер Яўтуховіч, паэт Леанід Пранчак, а таксама маладзёжны ансамбль «Васілёк» з Нью-Йорка, хор «Васількі» з Кліўленда.

Нельга не адзначыць вялікую падрыхтоўчую працу арганізатараў сустрэчы, якім удалося ўсе мерапрыемствы правесці зладжана ў запланаваныя тэрміны. У час сустрэчы панавала сяброўская атмасфера, вёўся канструктыўны абмен думкамі аб тым, каб наша Бацькаўшчына жыла, квітнела, а яе народ здабываў сабе лепшы дабрабыт.

З гэтымі надзеямі і раз'ехаліся ўдзельнікі сустрэчы, каб зноў спаткацца ўжо на Бацькаўшчыне ў наступным годзе. Увесь ход юбілейнай сустрэчы здымаўся на відэастужку вопытным аператарам Беларускага тэлебачання Валянцінам Леановічам пад кіраўніцтвам рэжысёраў Вацлавы Вярбоўскай і Ірыны Дварнічэнка. Будзем спадзявацца, што ў хуткім часе яе змогуць убачыць жыхары Беларусі і суайчыннікі замежжа.

**Уладзімір НАВІЦКІ,**
**намеснік старшыні таварыства «Радзіма», удзельнік сустрэчы.**

*ГОСЦЬ З УРУГВАЯ*

# НА ЎСХОДНІМ БЕРАЗЕ ЛА-ПЛАТЫ

Мнагаводная аргенцінская Парана, убіраючы ў сябе воды левага прытоку рэчкі Уругвай, утварае адзін з самых магутных эстуарыяў у свеце — Ла-Плату, шырынёй 250 кіламетраў. На адным беразе гэтага неабсяжнага вусця ўладкавалася сталіца Аргенціны Буэнас-Айрэс, на супрацьлеглым — галоўны горад Уругвая Мантэвідэо. У абедзвюх краінах жывуць нашы суайчыннікі. Праўда, на аргенцінскім баку іх намнога больш. Яшчэ адна праўда ў тым, што напамінак пра аргенцінскіх беларусаў калі-нікалі з'яўляецца на старонках «Голасу Радзімы», а вось звесткі пра землякоў Уругвая — ніколі. Не хацела дзяліцца імі Ла-Плата... Канешне, раней уплывала недастатковая актыўнасць сувязяў паміж былым СССР і Уругваем (дыпламатычныя адносіны былі ўсталяваны ў 1926 годзе, перапынены і адноўлены ў 1943), цяпер — іх адсутнасць. Аднак бачылі мы ў гэтым і сваю віну (і што нам да гэтага часу замінае, каб узяць і махнуць на Усходні Бераг, як у часы іспанскай каланізацыі называўся Уругвай, заадно і на «дарада», славутасці Ла-Платы, парыбачыць...). Не выкарыстоўвалі раней выпадкі, хоць і лічаныя, калі можна было здабыць інфармацыю. Нарэшце надарылася цудоўная магчымасць парушыць маўчанне вакол беларускіх імігрантаў з Мантэвідэо, сказаць пра іх чытачу першае, няхай сабе і няпоўнае слова.

...Рыгор Асіпук, жыхар сталіцы Уругвая, родам з сяла Доўбнева, што на Брэстчыне, трапіў у Мінск да сваякоў турыстычным шляхам. Па сваёй ініцыятыве зладзіў невялічкую турыстычную групу з ліку суайчыннікаў і прыехаў. У такім спосабе наведання маецца пэўная рацыя: хоць маленькая, але скідка на білеты; паездзіш па СНД, а пасля і з блізкімі людзьмі можаш пабыць на Бацькаўшчыне. Тым больш, што з імі звязвае Рыгора Вячаслававіча не толькі сваяцтва, але і лінія лёсу: сужонства Бялецкіх рэпатрыіравала з Уругвая на Беларусь у 60-я гады. З таго моманту жывуць у Мінску. Так што ёсць аб чым успомніць. І што параўнаць.

— Я выехаў у Амерыку ў 1935 годзе. Хто тады разбіраўся ў адрозненнях паміж Аргенцінай, Бразіліяй, Злучанымі Штатамі... Ехалі ж у Амерыку. Спачатку накіраваўся ў Парагвай. Аднак умовы жыцця там былі, мякка кажучы, вельмі неспрыяльныя, асабліва клімат. І я, як і многія з нашых, не толькі адсюль, але і з Бразіліі, з Аргенціны, падаўся ва Уругвай, дзе, як бачыце, пяцьдзесят сем гадоў знаходжуся, — разводзячы рукамі, нібыта разважаючы паміж імі гэтае паўстагоддзе і сам таму не верачы, пачынае размову са мной уругвайскі госць.

— Вы кажаце — многія... Мне даводзілася чытаць розныя лічбы адносна колькасці вас, беларусаў. Напрыклад, прыводзіцца лічба 10 тысяч, 5 тысяч...

— Пяць тысяч наўрад ці набярэцца, але недзе каля гэтага будзе... Асноўная частка засталася ў Мантэвідэо. Мы заўжды імкнуліся трымацца разам. Цяперашнім часам маем культурны цэнтр, у грамадскай рабоце якога бяруць удзел 200 сяброў: беларусы, украінцы, рускія. Маем бібліятэку, мастацкую самадзейнасць, шматлікія секцыі.

**Радок гісторыі.**

Беларуская абшчына ва Уругваі прадстаўлена працоўнымі эмігрантамі, выхадцамі з Заходняй Беларусі, і фарміравалася на працягу 1925—1939 гадоў.

Паваенная эміграцыі няма. У перадваенныя часы дзейнічалі самастойныя Беларускі і Украінскі культурныя цэнтры, Беларуска-ўкраінскае таварыства «Воля», арганізацыя рускіх імігрантаў «За Родину». У перыяд другой сусветнай узнікаюць і актыўна працуюць камітэты дапамогі Радзіме, якія збіраюць матэрыяльную і фінансавую помач і накіроўваюць у Савецкі Саюз. У 1946 годзе беларускія асяродкі перастаюць існаваць і пад назвай Культурны цэнтр «Максім Горкі» аб'ядноўваюцца разам з украінцамі і рускімі. Цэнтр адкрыў свой філіял у горадзе Сан-Хавіеры, заснаваным у 1913 годзе духаборамі з Расіі.

— Рыгор Вячаслававіч, групаванне іміграцкіх нацыянальных суполак пад адным інтэрнацыянальным дахам, прыняцце многімі савецкага грамадзянства, вяртанне на Радзіму — агульная і характэрная рыса для працоўных эмігрантаў Паўднёвай Амерыкі. Але цяпер тыя краіны, да якіх належаць украінскія, рускія і беларускія перасяленцы, ідуць шляхам незалежнасці, адраджэння нацыі. І тут асоба Максіма Горкага вельмі ўжо не пасуецца да беларускасці.

— Ці варта гаварыць, як нас цікавяць падзеі на Радзіме. Аднак ва Уругваі сітуацыя іншакшая. Мы жывём у дзяржаве, якая даўно дамаглася незалежнасці. І вельмі далёка знаходзіцца ад Беларусі. І там кожны чалавек, паляк ён ці чэх, успрымаецца як свой, як зямляк. Падчас вайны ў Мантэвідэо быў заснаваны Славянскі Дом (Casa Eslava), дзе бралі і бяруць удзел разам з намі польскае, балгарскае, югаслаўскае, чэшскае таварыствы. З другога боку, мы робім усё магчымае, каб наладзіць больш цесную лучнасць з Бацькаўшчынай. І спадзяёмся на вашы крокі насустрач.

...Цяпер што тычыцца параўнанняў. Карцела мне даведацца, як выглядае беларускі «даматканы» капіталізм-разбурэнне на фоне ўругвайскага. Усходняя Рэспубліка Уругвай адносна нядаўна лічылася «лацінаамерыканскай Швейцарыяй». На яе плошчы, якая памерамі мала што не супадае з Беларуссю, пры адносна пастаяннай колькасці насельніцтва 3 мільёны, пасвіліся сытыя статкі кароў і атары авечак, нагульваў тлушч у рэках сом-крыкун, ды ўвесь год ласкава ўсміхалася сонца Атлантыкі. Тым болей, што летась адбылася ў мяне кароткая размова з мінчанінам, які вярнуўся з Уругвая ў 60-я: «Я зайздрошчу тым, хто там застаўся»,— сказаў ён.

— Часта, асабліва па расійскаму тэлебачанню, даводзіцца чуць, што супрацоўніцтва з Міжнародным валютным фондам, яго крэдыты — адзінае выйсце з крызісу. Уругвай перажыў гэты этап, і шмат хто там думае адваротнае. Цяпер на многія гады наперад дзяржава запазычылася фонду. Замежныя кампаніі запаланілі краіну, выціснулі з нацыянальнага рынку сваёй прадукцыяй менш якасную мясцовую, завалодалі сыравіннымі рэсурсамі. Скарацілася колькасць рабочых месцаў. 600 тысяч уругвайцаў вымушаны шукаць работу за мяжой, кожны пяты эмігрыруе. Я — на пенсіі. У месяц атрымліваю 200 долараў. Гэта болей, чым у вас, але на наш капыл — мала. Напрыклад, кілаграм ялавічыны ў Мантавідэо каштуе 2 долары. Сыр добрага гатунку, які я бачыў у вашых магазінах па 80 рублёў, у нас чатыры долары. Можа каму гэта мала што гаворыць, але асабіста мне многа. Бо ў нас восем мільёнаў кароў і 20 мільёнаў авечак. Падлічыце, колькі выпадае на кожную душу і якімі павінны быць цэны на самай справе. Усё экспартуецца, каб выплаціць працэнты за пазыку. Таму Шырокі фронт, апазіцыйны традыцыйным партыям «Каларада» і нацыянальнай партыі «Бланка», які падтрымлівае шмат хто з імігрантаў, выступае супраць палітыкі эканамічнага закабалення.

...За акіянам ляжыць маленькі Уругвай з яго надзённымі клопатамі, што сталі часткай жыцця і нашых суайчыннікаў. І можа выпадзе чытачу апынуцца ў пампасах на ўсходнім беразе Ла-Платы. Ведайце, вас будзе каму сустрэць у Мантавідэо. Куды ні трапяць беларусы...

**Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.**

*ДА 1000-годдзя ХРЫШЧЭННЯ БЕЛАЙ РУСІ*

# ПОЛАЦКАЯ ЕПАРХІЯ

ЗАСНАВАННЕ Полацкай епархіі ў 992 годзе з'явілася важнейшай падзеяй у пачатковай гісторыі Беларусі. Зразумела, што толькі епархіі маглі праводзіць масавае пашырэнне хрысціянства сярод насельніцтва шляхам будаўніцтва храмаў, іх свяшчэннаслужыцелямі для наладжвання набажэнства тут. Усё гэта ў поўнай меры адносіцца да Полацкай зямлі, пачатковая гісторыя якой шчыльна пераплятаецца з гісторыяй з'яўлення ў ёй хрысціянства.

Не адмаўляючы таго, што палачане былі знаёмы з хрысціянствам яшчэ да 988 года, дзякуючы непасрэдным зносінам паасобных яе жыхароў з Візантыяй, усё ж трэба лічыць: з утварэннем епіскапства тут і мог пачацца даволі прыкметны працэс хрысціянізацыі. Праўда, крыніцы нам не захавалі поўнай карціны яго, аднак аб значных поспехах у гэтым кірунку мы маем яскравыя сведчанні ў самым пачатку хрысціянскай эпохі на Полаччыне. У Густынскім і Цвярскім летапісах пад 988 годам змешчана апавяданне, дзе гаворыцца, як полацкая князёўна Рагнеда адмаўляецца выйсці замуж за прапанаванага ёй якога-небудзь вяльможу кіеўскага князя Уладзіміра, бо яна «ўнявесцілася Хрысту», г. зн. стала манашкай, прыняўшы гэты чын і чарнецкае імя Анастасія. Не мае значэння, ці гэта праўдзівы факт, ці легендарны. Важна, што ўжо ў пачатку хрысціянства на нашай зямлі існавала ўяўленне менавіта аб полацкай князёўне як увасабленні хрысціянскай святасці. Фактычна Рагнеда першая ўпомненая летапісцамі манашка ва ўсходнеславянскіх землях.

Сказанае аб Рагнедзе дазваляе лічыць поўнасцю праўдзівай характарыстыку яе сына — полацкага князя Ізяслава, дадзеную ў Ніканаўскім летапісе: «Бысть же сей князь тих, и кроток, и смирен, милостив, и любя зело, и почитая священнический чин иноческий, и прилежен прочитанию божественных писаний, и отвращаяся от суетных глумлений, и слезен, и умилен, и долготерпив». Як бачым, тут полацкі князь выступае як ідэал сапраўднага хрысціяніна. І, вядома, такі чалавек прыкладваў усе намаганні, каб хрысціянскі светапогляд і хрысціянская дабрачыннасць пашыраліся ў яго народзе. І ўжо тое, што Ізяслаў шанаваў свяшчэнніцкі і манаскі чыны, можа сведчыць наколькі яны былі пашыранымі з'явамі ў Полацкай зямлі. Асаблівай увагі заслугоўвае тое, што Ізяслаў выступае ў летапісе як першы ва ўсходнеславянскіх землях князь-кніжнік.

Вядома ж, такі гуманны, адукаваны і глыбока прасякнуты хрысціянскай мараллю князь не мог у сваёй дзяржаўнай і асветніцка-рэлігійнай дзейнасці прыбягаць да грубага насілля. Вось чаму адметнай асаблівасцю пашырэння хрысціянства на Полацкай зямлі было тое, што яно працякала ў цэлым мірна, у той час як у іншых землях хрышчэнне насіла гвалтоўны характар. Напрыклад, у Наўгародскай зямлі, як сведчыць летапіс, Дабрыня (дзядзька кіеўскага князя Уладзіміра) хрысціў народ «агнём і мячом». Вядомы таксама выпадкі, як там жа знішчаліся язычніцкія валхвы. Такога ў Полацкай зямлі крыніцы не зарэгістравалі. Наадварот, у «Хроніцы Лівоніі» Генрыха Латвійскага полацкія князі папракаюцца за тое, што яны не прымушаюць залежных ад іх язычніцкіх прыбалтыйскіх плямёнаў да хрышчэння, а толькі задавольваюцца данінай з іх. Відаць, у такім духу дзейнічалі полацкія князі і епіскапы ў адносінах да свайго карэннага насельніцтва Полаччыны, дзе працэс хрысціянізацыі ішоў «без шуму і гвалту», як зазначыў у свой час А. Качубінскі. Гэтым і тлумачыцца той факт, што яшчэ да канца XIV стагоддзя у Полацкай зямлі захаваліся астравы язычніцкага насельніцтва, як, напрыклад, у раёне Абольцаў на Аршаншчыне, у раёне Гайны на Лагойшчыне і інш. І толькі па ўмовах Крэўскай уніі гэта насельніцтва было ахрышчана ў каталіцкую веру. Менавіта з прыходам апошняй і пачаўся рэлігійны фанатызм, гвалтоўнае навязванне веры, знішчэнне праваслаўных кніг...

Нельга лічыць, што пашырэнне хрысціянства з Кіева садзейнічала ўмацаванню кіеўскай улады ва ўсходнеславянскіх землях, асабліва ў Полацкай зямлі, якая жыла незалежным жыццём. Як з'яўленне хрысціянства ў Кіеў з Візантыі не прыкавала яго палітычна да гэтай імперыі, так і прыход хрысціянства з Кіева ў Полацк зусім не садзейнічаў падначаленню Полацкага княства Кіеўскаму князю. Наадварот, менавіта з прыняццем хрысціянства пачынаецца яго самастойнае дзяржаўнае жыццё. Не хто іншы, як першы полацкі князь-хрысціянін Ізяслаў аднавіў полацкую княскую дынастыю. Адзінства веры не перашкаджала Полацку весці барацьбу з Кіевам за сваю самастойнасць. Асабліва характэрны прыклад менскага князя Глеба Усяславіча. Ён, робячы вялікія ахвяраванні Кіева-Пячорскаму манастыру, у той жа час быў непрымірымым ворагам Кіева. Хаця ён быў вельмі набожным чалавекам, але не пабаяўся пракляцця кіеўскага мітрапаліта за напад на кіеўскія ўладанні і працягваў весці сябе гэтак жа і далей, за што быў у 1119 годзе ўзяты ў палон і прывезены ў Кіеў, дзе праз некалькі месяцаў і памёр. Асабліва характэрны выпадак і з тураўскім епіскапам Акімам, які быў ініцыятарам сепаратысцкіх дзеянняў у 1146 годзе тураўскага князя Вячаслава Уладзіміравіча, за што быў кіеўскімі карнікамі схоплены, закаваны ў кандалы і прывезены ў Кіеў. Калі так вялі сябе епіскапы залежнай ад Кіева Тураўскай зямлі, то можна ўявіць, што епіскапы незалежнай Полацкай зямлі былі паслядоўнымі абаронцамі яе самастойнасці. Вядомы факты, калі полацкія епіскапы ў кіраванні дзяржавай замянялі яе князёў. Так, полацкі епіскап Якаў каля 1309 года ад імя палачанаў паслаў грамату рыжанам, з якімі заключыў мірны і гандлёвы дагаворы. Подпіс полацкага епіскапа Грыгорыя стаіць і пад граматай, напісанай у 1338 годзе і адрасаванай таксама рыжанам. Варта адзначыць і тое, што хрысціянскія храмы ў Полаччыне мелі не толькі культавае прызначэнне, але і выконвалі ролю палітычнага сімвала: так, збудаваны вялікім полацкім князем Усяславам Чарадзеем Сафійскі сабор у Полацку быў не толькі храмам, але і з'яўляўся выяўленнем роўнасці Полацка з Кіевам і Ноўгарадам, бо падобныя велічныя збудаванні былі ўжо ўзведзены ў гэтых гарадах.

Трэба думаць, што менавіта разам з прыходам на Полаччыну хрысціянства на яе пашырылася і назва «Русь». Як вядома, пачаткова гэта назва адносілася толькі да Кіеўскай зямлі. І звычайна тая ці іншая вера атрымлівала сваю другую назву па той мясцовасці, адкуль яна ішла. Так, каталіцкая вера, якая прыйшла на Беларусь з Польшчы, называецца польскай верай. Тое ж атрымалася, толькі на стагоддзі раней, і з праваслаўнай верай. Паколькі яна ішла з Кіева, г. зн. з Русі, то яна стала называцца рускай. Яна канчаткова ўсталёўвалася — умацоўвалася і назва «Русь». Так адбылося з Полаччынай, за якой па меры пашырэння праваслаўнай (рускай) веры ўсё больш стала замацоўвацца і назва «Русь». Ва ўсякім выпадку, у пач. XIII стагоддзя лівонскі храніст Полаччыну называў «Русіяй», а полацкага князя — «каралём русаў». А праз стагоддзе, у адрозненне ад усіх рускіх земляў, дзе замацавалася праваслаўная вера, Полаччына пачала называцца Белай Руссю, што побач з іншым падкрэслівала яе этнічную адметнасць. У далейшым перайшла на ўсе беларускія землі.

Няма патрэбы даводзіць праўдзівасць факта заснавання Полацкай епархіі ў 992 годзе, бо гэта ўжо пераканаўча даведзена ў працах Е. Галубінскага, А. Скакунова, Я. Шчапава, О. Рапава і інш. Трэба спадзявацца, што тысячагоддзе Полацкай Епархіі пройдзе пад знакам шырокага асвятлення яе ролі ў развіцці пісьменства, асветы і ўсёй культуры Беларусі. Вельмі пажадана, каб у час святочных урачыстасцей было пастаўлена пытанне аб збудаванні помнікаў Рагнедзе ў Заслаўі і Ізяславу ў Полацку, а таксама аб кананізацыі гэтых выдатных асоб і гэтым самым далучэнні іх да ліку святых. Яны гэтага поўнасцю заслужылі сваёй самаадданай дзейнасцю ва ўмацаванні хрысціянства на Беларускай зямлі.

**Мікола ЕРМАЛОВІЧ.**

# АДЧУЦЬ «ДЫМ АЙЧЫНЫ» Ў ПІСЬМАХ СЯБРОЎ

Дарагая мая Ніначка!

Сардэчнае табе дзякуй за шчыры, добры ліст, за гатоўнасць выканаць маю просьбу, за цеплыню тваіх адносін да мяне, за ўсё добрае. Не адразу адказала табе, хварэла, яшчэ і цяпер недамагаю. Сэрца. Вымушана была адмовіцца ад вечара ў Мінску і Маскве, хоць учора вельмі сардэчна запрашаў Мазалькоў, каб прыйшла ў канферэнц-залу СП, дзе збяруцца людзі, якія шмат зрабілі для папулярызацыі беларускай літаратуры, дзе будуць чытаць мае вершы артысты і перакладчыкі, а потым у рэстаране Дома СП абяцалі сервіраваць стол (у складчыну!), як падкрэсліў Мазалькоў, дзе мне будзе ўручаны дагавор на кніжку, якая ідзе ў «Советском писателе». Усё гэта прыемна і добра, толькі ні сэрца маё, ні нервы не выносяць напружання. Не будзе побач маёй Уладкі, якая галоўны націск перанесла б на сябе — і я (...) вытрымала б. А так — не вытрымаю. Так і сказала. Напісаў мне надта сардэчнае пісьмо Мікола Гаўрылавіч Ткачоў, запрашаў у Мінск, дзе таксама планавалі вечар. Ніначка, не з маімі нервамі гэта. Учора запісвала на магнітафон вершы для дзіцячага сцэнарыя ў Мінск і так расхвалявалася, што не спала ўсю ноч. Хоць з'ела аж тры сонныя парашкі... Была б Уладка, я прыехала б абавязкова, а так быць выстаўленай на агляд усёй залы, дзе хтосьці будзе штосьці пра мяне гаварыць — не магу. Не вытрымаю. Вось ты зразумей мяне і не судзі строга. Хочацца чамусьці залезці ў куток зацішны, і каб ніхто не кранаў маю асобу.

Вядома, я ўдзячная таварышам, якія мяне ўспомнілі, якія хочуць адзначыць... А што адзначаць? Што не памерла, як памерлі многія, што з плеяды нашаніўскіх пісьменнікаў адна засталася, як сасна на прагалінцы, хістацца над магілаю зрубленых дрэў, ад якіх асталіся толькі пні помнікаў, а ў таго-сяго яшчэ і помнікаў няма. (...) Цалую цябе, родная.

Твая Канстанцыя.

*Масква, 3/XII—68 г.*

Дарагая, родная мая Марыечка!

Дзякуй табе вялікае за кнігу. Яна мне дала сапраўдную асалоду. Купала і Уладка жывыя ў маёй душы, пакуль жывая я. Ужо вельмі цесна перапляліся нашы лёсы, асабліва мой і Уладкі. Амаль з дзяцінства і да самай смерці маёй сумбурнай, шалёнай, разумнай, добрай, сардэчнай і па-вар'яцку злоснай Уладкі. Любіла я яе вельмі моцна. Момантамі таксама моцна ненавідзела, але толькі момантамі, калі яна выбірала сабе ахвяру і неміласэрна трэціравала яе, звычайна самую бездапаможную і якая не магла ёй адказаць гэтаксама істотна. Бывала гэтай ахвярай і я. Але ніхто не гаварыў ёй потым такіх жорсткіх і шчырых слоў асуджэння яе п'яных усцышак. Рабіла я гэта на наступны дзень, калі яна прыходзіла да мяне вінаватая і шукала прабачэння. Тады яна была мяккай, як воск, і пакорліва выслухвала мае выказванні на яе істэрычныя выпады. Цяпер у душы і памяці толькі адно добрае, а ў сэрцы глыбокая любоў да яе і Янкі і нязгасны сум і журба, што іх ужо няма на свеце. Уладка зноў мне бачыцца светлай, цудоўнай, добрай, чулай і глыбока любячай мяне сяброўкай усяго майго жыцця. Купала мяккі, добры, чулы, як і Уладка, толькі маўклівы, але які адной заўвагай мог перадаць сяброўскую спагаду, сардэчную цеплыню, пранікнёнае спачуванне ў маім горы, калі, прыходзячы да мяне на работу, пры ўсіх цалаваў мае рукі, абдымаючы, цалаваў галаву, вочы і кранальна гаварыў: «Трымайся, Костка дарагая, ты маеш сілу духу, трымайся, родная». Я не магла стрымаць слёз. Гэта было тады, калі сябры шарахаліся ад мяне, як ад зачумленай, толькі Купала і Уладка былі са мной яшчэ больш сардэчнымі, яшчэ больш ласкавымі, чым раней. Яны прыходзілі да мяне і на работу, і дамоў, калі прыязджалі ў Маскву, а калі жылі ў Маскве, амаль штодзённа Уладка званіла мне на работу і заўсёды гаварыла: «То можа зойдзеш сягоння, я зварыла смачны абед. Прыходзь, Костка родная». І я прыходзіла, не кожны дзень, у мяне яшчэ быў дом і Жэня, які таксама вёў гаспадарку, варыў абеды і чакаў мяне.

Вось усё гэта з новай сілай хваляй нахлынула на мяне. І сардэчнае табе дзякуй за гэтае душэўнае свята.

Сёння атрымала два запрашальныя білеты ў Дом Саюзаў на юбілей Петруся Броўкі. Адзін білет «у прэзідыум». Не пайду, таму што адчуваю сябе слабай, такая хваля эмоцый яшчэ больш узніме крывяны ціск, а ён у мяне і так высокі. Бора заўтра адвязе ў СП маё віншаванне Броўку і прабачэнні, што прысутнічаць не магу ў выніку нездароўя. Быў у мяне Алесь Пальчэўскі. Вельмі сардэчная, вельмі цёплая была сустрэча. Вельмі цёпла гаварылі аб табе. Ён сказаў: «Калі мы прыехалі адтуль, Марыя Канстанцінаўна прыняла нас сардэчна, цёпла. Я гэтага ніколі не забуду. Ніхто да нас не падышоў так па-сяброўску, як яна, ніхто нам не дапамагаў так аддана і дружалюбна».

Учора ён мне прыслаў свой двухтомнік з сардэчным прысвячэннем. Пішуць мне Содаль, настаўнік Палікарпаў з Баранавіч, просячы даць матэрыялы для артыкулаў пра мяне. Забараняю капацца ў маім быце, пакуль я жывая. Калі памру, няхай пішуць усё, што хочуць.

Родная мая! Не выдумляй, што не атрымліваеш пісьмаў, што пакрыўдзілася. Проста старасць бярэ за горла і душыць усе дзеянні. Вельмі горка і цяжка пераношу смерць Лынькова. Неяк вельмі гэта ўдарыла па сэрцу.

Костка.

*Масква, 19/IX—75 г.*

Дарагая, харошая мая Соф'я Захараўна!

Ваша шчырае, цёплае пісьмо атрымала. Узрадавалася яму вельмі. Рада, што ўспаміны пра М. Ц. (Міхася Ціханавіча) і пра Вас Вамі добра прыняты. Пісала шчыра, так, як было і як я бачыла і адчувала. Няхай Вас не бянтэжыць, што напісана і пра Вас. Я сапраўды бачыла М. Ц. шчаслівым і маладым толькі пры Вас, толькі з Вамі. Гэта праўда. Бачыла і Вашы вельмі сардэчныя, цёплыя і ласкавыя адносіны да яго. Помню, калі ў Каралішчавічах ён захварэў, я сустрэла Вас па дарозе ў сталовую ўсю ў слязах. Вы чакалі машыну, каб прывезлі ўрача і, плачучы, паўтаралі: «Гэта такі чалавек, такі чалавек!» Вы ведалі цану гэтаму чалавеку, Вы глыбока паважалі яго і горача любілі. (...)

Дарагая, зайздроснікаў многа, паклёпнікаў таксама многа, але нішто дрэннае не прыстане ні да М. Ц., ні да Вас. Я ўмею бачыць людзей не толькі звонку, я навучылася разумець душы чалавечыя. Гэта дае мне права гаварыць з праматой і шчырасцю тое, што я бачу і разумею. Помню, мы ехалі цэлай калонай машын з Вязынкі. М. Ц. выйшаў на дарогу не з таго боку, а міма праімчалася сустрэчная машына. Я бачыла Вас белай, як палатно, ад страху, — «як ён выйшаў на дарогу, плачучы гаварылі вы, яго ж маглі збіць». Гэта было жахліва. А ён усміхаўся спакойна і гладзіў Вас па руцэ: «Не збілі ж — што ж ты плачаш, — ласкава гаварыў ён.

Я вельмі глыбока паважала Міхася Ціханавіча. Гэта быў вельмі чысты, вельмі сумленны, вельмі разумны, глыбокі розумам і душой чалавек. Вельмі шкада, што не магу прыехаць у Мінск. Вельмі шкада, што пакуль не магу запрасіць Вас да сябе. Па-першае, у нас яшчэ ідзе капітальны рамонт (5 год запар!). Па-другое, у мяне сардэчная недастатковасць, і я больш ляжу, чым хаджу. Але пісаць Вам буду вельмі ахвотна і многа. Прашу Вас пісаць і мне, так, як некалі пісала мне Уладка. (...)

Вашы пісьмы жывыя, ласкавыя і добрыя, як быццам ад Уладкі. Заўсёды з радасцю буду вам адказваць. Уладка зрабіла добрую экспазіцыю ў музеі Купалы. Яна пачынала з пустога месца. Усё ж згарэла, увесь архіў. Ёй многае ўдалося ўзнавіць. Гэта выключная ўпартасць з якой яна здабывала матэрыялы, заслугоўвае пераймання. Не бойцеся звяртацца да людзей, гэта трэба для народа, для Радзімы. І ўсе гэта выдатна разумеюць. Мілая Соф'я Захараўна, вось вам ключ да жыцця цікавага, творчага, поўнага глыбокага сэнсу. Пацікаўцеся ў музеях Купалы і Коласа, што імі сабрана, дзе і як. Скарыстайце вопыт іх. У Купалы ўсё зроблена значна цяплей, больш душэўна, уваходзіш, як у дом Купалы, дзе ён жыве паўнакроўным жыццём. Гэта зрабіла Уладка, якая ўклала ўсю душу ў гэты музей. У Коласа гэта не так. Там усё неяк па-казённаму. (...) Не хапала любячай, разумеючай жаночай рукі і душы. Я, праўда, даўно была ў музеі Коласа, можа там цяпер усё перамянілася. А ваша сямейнае жыццё таксама неабходна адлюстраваць у музеі. Гэта раскрывае душу пісьменніка, яго сутнасць як чалавека і мае глыбокі сэнс. Таму не трэба баяцца, што я паставіла вас побач з М. Ц. Гэта так і было, і сваёй работай па ўвекавечванню памяці М. Ц. Вы яшчэ ярчэй станеце з ім побач, як яго сяброўка, як яго жонка, якая яго глыбока разумела і дапамагала яму жыць і працаваць. (...) Цалую вас моцна.

Ваша Кан. Буйло.

*Масква, 21/III—76 г.*

Дарагая мая Дзіяна Цімафееўна!

Ваша добрае пісьмо атрымала і інтэнсіўна працую над адборкай матэрыялу. Гэта абцяжарана тым, што я прачытваю недрукаваныя вершы, што займае значна больш часу. Потым я адбіраю ўсё перадрукаванае чыста, што можна не перадрукоўваць. Гэта паскорыць работу ў Вас. Далей, ёсць вершы і паэмы, напісаныя даўно. Яны наўрад ці прыгодныя для кніг. Але я, робячы Вас (па Вашаму дазволу) маёй даверанай асобай, хачу здаць усё гэта Вам, каб пасля азнаямлення з гэтым матэрыялам рэдактара выкарыстаць, што можна і трэба, а ўвесь матэрыял, адпраўлены мною Вам — не вяртаць мне назад, а здаць у дзяржархіў, як я ім гэта абяцала. У мяне дастаткова копій, больш чым патрэбна. А ці ўсё тут, не ведаю, ды гэта і не важна, мне гэта нядоўга будзе патрэбна. Архіў вельмі настойваў, каб я ім здала ўсё, да апошняй паперкі чарнавіка. Далей. Было б пажадана, каб Вы прымалі непасрэдны ўдзел у гэтым выданні замест мяне. Мне не трэба нічога прывозіць для прагляду. Калі рэдактарам будзе самавіты паэт, каму мая творчасць зразумелая і дарагая, здаю яму поўнасцю права рэзаць і правіць тое, што ён палічыць патрэбным. Не мне ж гэта патрэбна, а народу, а што падабаецца народу, яму можа быць больш бачна, таму што ён сучаснік, а я даўно пастарэла са сваімі густамі. Словам, Вам, маладым, поўнасцю давяраю маю «спадчыну», рабіце з ёй, што хочаце. Вельмі рада, «што ты, Радзіма, мая, пачуеш мяне, мусіць толькі, калі я ўжо вочы заплюшчу». Рада, што хоць перад смерцю даведалася, што ўся мая работа перададзена ў рукі блізкіх мне людзей. А чытаць ядавітыя надпісы на старонках вершаў (учора наткнулася на такую папку вернутых вершаў) мне ўжо не пад сілу. Не хачу ведаць, як будзе кпіць рэдактар наконт няўдалых вершаў, няхай ён проста адкладвае іх убок, а Вас прашу — аддайце ўсё ў архіў. Вядома, я напішу ў Саюз пісьмо, якое будзе даваць Вам усе правы мае на ўдзел у складанні кнігі ці самастойнае яе складанне. Гэтак жа папрашу дазволіць Вам напісаць уступнае слова. Матэрыялу ў Вас дастаткова. Скарыстайце яшчэ прадмову «Світання», вядома, факты. Аўтабіяграфіі не трэба: нудна і суха. Прыязджаць цяпер сэнсу няма. Калі я Вам прышлю некалькі экз. некаторых вершаў, — то цешачы сябе надзеяй, што Вы іх зможаце перадаць у перыёдыку. А калі не, няхай ідуць у архіў. Тым больш, што ёсць урэзаныя экземпляры і поўныя. (...) Не хачу больш бачыць той матэрыял, які перасылаю Вам, інакш як толькі ў гатовай кнізе, — калі ўдасца дажыць да яе выхаду ў свет.

Кан. Буйло.

*Масква, 4/IV—79 г.*

## Яўген ЗАЙЦАЎ

**13 верасня на 84-м годзе жыцця памёр выдатны майстра сучаснага жывапісу, народны мастак Рэспублікі Беларусь, ветэран Вялікай Айчыннай вайны Яўген Зайцаў.**

**У некралогу, падпісаным кіраўнікамі Рэспублікі Беларусь, дзеячамі культуры і мастацтва, калегамі, гаворыцца:**

**Яўген Зайцаў нарадзіўся 3 студзеня 1908 года ў горадзе Невелі, прафесіянальную адукацыю атрымаў у Віцебскім мастацкім тэхнікуме і Ленінградскім інстытуце жывапісу, скульптуры і архітэктуры. Тэмай яго творчасці была гісторыя, гістарычнаму жанру ён застаўся верным назаўсёды. Першыя палотны мастака: «Чапаеў», «Пахаванне героя», «Абарона Брэсцкай крэпасці», «Выйсце з блакады», «Мая рэспубліка ў агні Айчыннай», шэраг партрэтаў і краявідаў—сведчаць аб высокім прафесіянальным майстэрстве, вылучаюць жывапісца як майстра не толькі кампазіцыйнай пабудовы станковай тэматычнай карціны, але і арыгінальнага каларыту. Лепшыя яго творы занялі пачэснае месца ў музейным фондзе Беларусі, грунтоўна адлюстроўваюць час, на працягу якога фарміраваліся мастак і яго творчасць.**

**Я. Зайцаў быў выбраны членам-карэспандэнтам Акадэміі мастацтваў СССР, узнагароджаны ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга, Дружбы народаў, «Знак Пашаны», медалямі. Нягледзячы на свой цяжкі фізічны стан у апошнія гады, Я. Зайцаў не толькі працягваў працаваць над стварэннем сваіх новых палотнаў, але прымаў актыўны ўдзел у распрацоўцы канцэпцыі развіцця выяўленчага мастацтва Рэспублікі Беларусь у сучасных умовах.**

## НАВАГРУДЧЫНА ДАРАГАЯ СЭРЦУ ПАЭТА

Адноўлены Дом-музей Адама Міцкевіча ў Навагрудку, і яго адкрыццё ператварылася ў свята паэзіі, свята пакланення таленту вялікага земляка, які апеў у сваіх неўміручых творах прыгажосць тутэйшых мясцін, іх слаўнае герачнае мінулае, выказаў любоў да мовы, звычаяў, побыту народа, сярод якога прайшло яго маленства і юнацтва. Тут было яго першае незабыўнае каханне да Марылі Верашчакі, палкая юначая дружба з Янам Чачотам. Бадай, кожны куточак навагрудскай зямлі нясе ў сабе ўспамін аб той ці іншай падзеі з жыцця песняра, апеты ім у яго творах.

**Нёман, прытулак мой хатні!**
**Празрыстай вадою**
**Ты абмываў мне калісь далоні.**
**Плыў па табе я, пакінуўшы**
**родныя гоні,**
**У землях далёкіх шукаць свайму**
**сэрцу спакою.**

Сённяшні музей — дакладная копія дома, у якім у 1807 годзе пасяліліся Міцкевічы. Менавіта такі выгляд меў будынак, калі быў канфіскаваны ў 1834 годзе расійскімі ўладамі за ўдзел старэйшага брата паэта Францішка Міцкевіча ў Варшаўскім узброеным паўстанні. Дом перайшоў у чужыя рукі, у 1881 годзе згарэў і толькі праз шэсць гадоў быў адбудаваны, але ўжо выглядаў інакш. У 1938 годзе ў Навагрудку адкрылі музей Адама Міцкевіча, які таксама згарэў у першыя дні вайны.

Цяперашняе будаўніцтва сядзібы, якое працягвалася крыху больш за год, ажыццявіла польская фірма «Будымэкс», два гады супрацоўнікі Дома-музея працавалі над стварэннем новай экспазіцыі. Дапамогу музею аказалі польскія калегі, перадаўшы ў карыстанне 200 экспанатаў. Новая экспазіцыя адлюстроўвае дзіцячыя і юнацкія гады Адама Міцкевіча, яго вучобу ў Віленскім універсітэце, выгнанне, знаходжанне ў Расіі, яго ад'езд за мяжу ў 1829 годзе. Далей яна размешчана ў падземным пераходзе, які злучае галоўны дом і флігель. Там у асноўным праілюстраваны творы Міцкевіча. Ваколіцы Навагрудка, замак, возера Свіцязь, камень філарэтаў... — усё гэта бачыў паэт, усё гэта дорага было яго сэрцу.

# ГРОЗНАЕ І ВЕЛЬМІ ДОБРАЕ ІМЯ

Максіму Танку я багата чым абавязаны. Ён спрэзентаваў мне (тут, здаецца, больш да месца не падараваў, а гэтае даўняе і ўрачыстае слова спрэзентаваў) возера Нарач.

Аддаў проста ў рукі тое, што было найбольш дарагое сабе. Як мог, я стараўся аддзякаваць: з'явіўся цыкл вершаў і адна з першых маіх кніг на рускай мове пад назвай «Приглашение на озеро Нарочь». А ўражаны я быў моцна! Пасля бязлесай і бязводнай мае вёскі на Случчыне, пасля тоненькіх рэчак Млынка, Случ, больш падобных на бліскучыя драціны ў балацінах і на грудках, раптам перад вачыма — неаглядны прастор сінечы. Больш за 20 кіламетраў ад Мядзела да вёскі Купа — брукаваны шлях на самым беразе сапраўды вялікай вады.

Дый ці вада гэта! Напэўна, вялікі кавалак неба адламаўся і лёг між лясоў і пагоркаў, пачаўшы сабою вадзяную прастору неверагоднай чысціні.

Праўда, я бачыў славутае Чорнае мора, не мог адарвацца ад бліскучых кубкаў-азёр на Лепельшчыне, але на такое не спадзяваўся.

Атрыманы быў прэзент ад Танка недзе ў жніўні ці верасні 1944 года. Вярнуўшыся ў Мінск, Танк увесь час рваўся дадому, у сваю Пількаўшчыну, хацеў пабачыцца з бацькамі. Нарэшце вырваўся і запрасіў з сабою мяне.

Беларусь адкрывалася воку спаленая і стаптаная акупантамі. Мы ехалі на захад каляінамі нядаўняй вайны. Перачэквалі, даючы прайсці бясконцым статкам малочных кароў. Пярэстыя — чорнае з белым, — тлустыя, яны пераганяліся з Германіі ў нашы спусцелыя хлеўчукі.

Перачэквалі і таму, што з лесу там-сям пастрэльвалі. Тыя, хто не хацеў пагадзіцца са зваротам законных гаспадароў: немцы з «катлоў», дзе-ніздзе дэзерціры, недабіткі розных акупацыйных фарміраванняў.

З Мядзела ў мілую паэту вёсачку нас не пусцілі. Праверым, сказалі, ці чыстая дарога.

Праверка пацвердзіла сумняванні нашых гаспадароў: з групы байцоў, накіраванай на гэты заход, адзін не вярнуўся, некалькі было паранена. І ўсё ж Танк намагаўся ехаць. Хоць, праўда, на літаратурным вечары ў Мядзелі не ўсё складалася ў нашу карысць. Нам задавалі вострыя, відавочна інспіраваныя, далёка не літаратурныя пытанні пра далейшы лёс вёскі, паасобных гаспадароў, пра рэзрух у горадзе. Прыйшло некалькі запісак: «Скажыце праўду, як загубілі Купалу».

Танк не ўтрываў, абурыўся. Усхапіўся з крэсла і гукнуў: «Вы праўду чуць не хочаце, а вы ж мяне з хлапчукоў ведаеце. Хто адозвы насіў падчас паўстання рыбакоў? Не я хіба? Дык вы мне веры не хочаце даць, а нейкага чорта лысага з кустоў слухаеце!»

Доказ быў пераканаўчы, атмасфера палагоднела. Тым не менш дазналіся пра яго і «чэрці лысыя з кустоў». Але пра гэта пазней.

Раніцай рушылі ў Пількаўшчыну. На «вілісе». Спераду, поруч з шафёрам, — аўтаматчык, далей — сакратар райкома, таксама з аўтаматам, у сярэдзіне мы з Максімам, узброеныя не паздаванымі яшчэ ад часоў вайны пісталетамі. У адной з прыдарожных вёсак Максіма пазналі, прымусілі зайсці пагасцяваць. Былі завінуліся варыць юшку, але асечка: ва ўсёй вёсцы ні шчопця солі, за немцаў усю перавялі. Справу папраўілі: юшка паравала на стале, знайшлася і бутэлька хмызняковай, самаробнай. Але спірытусовае не ўжывалася гасцём. Яго адпойвалі сырадоем, а нам у дарогу далі толькі злоўленага шчупака, такога вялізнага, што ў машыну не ўлез, давялося прывязваць на брызенце зверху.

Танкава маці, якой быў прад'яўлены рыбацкі падарунак, сплясnула рукамі:

— А мае ж вы дзеткі! Гэту ж падлу есці, што карчы грызці. У мяне свежанькая сілява ёсць. А гэтай брыдой буду тыдзень парсюка карміць.

Пасля роспытаў і пачастункаў Танкаў дзядзька прысарамаціў нас з Максімам. Мы ганілі свае пісталеты, а ён узяў, паважыў на руцэ і паслаў у дашчулку па дзве кулі, адна ў адну, з аднаго і з другога.

Пасля нам паслалі ў чыстай палавіне, а там хавалася многа віленскіх выданняў, якія не маглі трапіць у Мінск.

Пераглядалі, гаварылі, Танк успамінаў добрым словам Рыгора Раманавіча Шырму, выдаўца свае першай кнігі «На этапах», другіх людзей, з кім таварышаваў, сядзеў разам у Лукішках.

Назаўтра пры снеданні сакратар райкома спытаў:

— А якой дарогай будзем вяртацца? Той самай, што прыехалі? Танк хвіліну падумаў:

— Не, другою, на Крывічы.

Тут высветлілася, што пакуль мы спачывалі, Танкаў бацька з дзядзькам і аўтаматчык з усіх бакоў пільнавалі хату.

Праз нейкую гадзіну пасля нашага ад'езду да Максімавага бацькі ўвалілася некалькі добра ўзброеных «лясных жыхароў»:

— Дзе твае госці?

— Паехалі,—стары пацiснуў плячыма.

— А кудэю, якою дарогай?

— Каб жа я ведаў.

— Шкада, размінуліся. А то паразмаўлялі б.

Стала ясна, што засада чакала нас на старой дарозе. Танк выбраў маршрут правільна. Нюхам спрактыкаванага падпольшчыка.

Трэба думаць, што ён умела выбірае паэтычныя маршруты. Не прэтэндую на «глыбокі аналіз» творчасці, запісваю толькі некаторыя моманты асабістага ўспрымання паэта і чалавека. Навошта распачынаць спрэчкі з прыхільнікамі Танкавага кірунку на вершы тыпу «Ave Maria», на кнігі парадку «На камні, жалезе і золаце» і паміж ахвотнікамі да работы паэта ў галіне вольнага вершу. Скажам адно, у кожнай з мініяцюр гэтага тыпу абавязкова яснее новая думка, канечне прабягае ўсмешка, чуецца подых надзеі, уздых гора або спачування.

Чаго ж болей дамагацца ад паэта?

Вернемся зноў да нарачанскага падарожжа. Мы прабылі ў Мядзелі і ў Вілейцы некалькі дзён. Спачываючы на вузкай касе, што адлучае Нарач ад Мядзельскага возера, Танк раптам, нібыта самому сабе, ціха загаварыў. Я прыслухаўся: вершы! І да таго ж, мае! Радкі з мае юнацкай паэмы «Галасы гарадоў» пра восень, заміранне прыроды, старога рыбака.

Запомніў! Відаць, сустрэў у бібліятэцы Урублеўскіх, толькі туды, здаецца, даходзіў часопіс «Узвышша» пры Польшчы, а зараз у нас быў у спецсховішчах. Вось, значыцца, адкуль выбягае наша першая сустрэча. Яна была завочная.

Ведаў і я крыху пра Танка. Сябры пераказвалі добразычлівыя водгукі Купалы і Коласа пра маладога заходнебеларускага паэта. Гартаў і сам некаторыя віленскія выданні, запомніў часопіс з вершамі Танка і фатаграфіяй яго з Натальляй Арсенневай. Упадабаліся больш за тыя, што сустрэў у падборцы 1939 года. Вось як нечакана крыжуюцца чалавечыя шляхі.

А пазнаёміўся асабіста ў канцы 1942 года. Дазнаўся, у якім нумары гасцініцы «Масква» ён жыве, і пайшоў. У брудным, прастрэленым з крысцяў сталінградскім шынялёку і ў нялепшай пілотцы. Мала лепей выглядаў і малады чалавек, які падняўся мне насустрач: ці ў ватоўцы ці ў такім самым шынялю.

Гаворка ў нас не дужа настройвалася. Гаварылі пра нядаўнюю смерць Купалы, пра ваенную бяду на радзіме. Потым, неяк сарамліва пасміхнуўшыся, Танк адсунуў шуфляду стала:

— Вы, можа, есці хочаце, дык у мяне тут трохі хлеба ёсць.

Гэтае простае слова растапіла лядок адчужанасці: я адчуў поруч з сабой сапраўды свайго, блізкага чалавека.

У пачатку 50-х гадоў Танк атаўбаваўся жыць на Нарачы ўлетку і пераманіў многіх пісьменнікаў, у тым ліку Куляшова, Крапіву, мяне.

Угаварыў ён глянуць на сваю радзіму і Якуба Коласа. Дзядзька Якуб кожнае лета прыязджаў да нас у госці на некалькі дзён. Згадкі пра гэта ёсць у адным з Коласавых лістоў да мяне.

Аднойчы мы згадзілі ў рыбгасе кацер, каб паказаць Коласу Нарач ва ўсёй красе. Пачалася нечакана навальніца. Хваля біла высока і злосна. Затрывожыліся жанчыны, стала неспакойна і іншым спадарожнікам. Толькі Колас не парушаў абвыклага спакою і на аціхлым возеры пажартаваў:

— Дык гэта была сапраўды навальніца? Бо я думаў, што вы ўсё знарок падстроілі, каб мяне напалохаць.

Да Максіма Колас ставіўся асабліва цёпла, нават выказаў жаданне лічыць яго ўласным сынам.

Танк адказаў вельмі цёплымі радкамі Канстанціну Міхайлавічу: як ён пачуў, чый голас прыйшоў паклікаць у дарогу яго, тады яшчэ «хлопца-пастуха».

Танк любіць і ўмее пажартаваць. Аднойчы займеў праз гэта непрыемнасці. Сказаў чалавеку, з кім жыў у ваенны час у адным нумары, калі той старанна рабіў ранішнюю фіззарадку:

— Што, ты ад ваенкамата адмахваешся?

А той і сапраўды ўхітрыўся лічыцца ў пісьменніках і ніводнага дня не пабыў там, дзе грукаюць бомбы.

Падчас шматлікіх сумесных падарожжаў мы апынуліся на Гродзеншчыне. Некаторы час ездзілі разам, выступалі. Калі маршруты нашы разыходзіліся, Танк зайшоў у мой пакой, на хвілінку. І здалося, што змянілася паветра, стала лягчэй дыхаць, далей відно.

Прысутны літаратар, чалавек добрага густу, захоплена прамовіў, калі за Танкам зачыніліся дзверы:

— Во глыбіна!

Днямі я прачытаў гэта самае слоўка ў артыкуле аднаго былога грамадскага дзеяча. І паўтарыў:

— Глыбіна!

Так і думаю пра яго. З павагай і ўдзячнасцю вымаўляю грознае і вельмі добрае імя— Танк.

**Максім ЛУЖАНІН.**

## Максім ТАНК

### ПЕРАД РАССТАННЕМ

Да ўсіх расстанняў немінучых
Яшчэ адно мне лёс дадаў —
Расстанне з кнігамі, з якімі
З юнацкіх год я сябраваў.

Заашчаджаючы на хлебе,
Падзертай світцы на плячах,
Іх набываў у букіністаў,
На выпадковых кірмашах.

Часамі ў сцюжную завею,
Даведаўшыся ад сяброў
Пра нейкую навінку, з ёю
Я пазнаёміцца ішоў.

Таму прашу і завяшчаю,
Калі свой век я дажыву,
Хоць пару беларускіх казак
Пакласці мне пад галаву.

### ТАДЫ... ТАДЫ...

Заўсёды,
Калі расказвала маці
Пра нейкае здарэнне,
Па-свойму
Час удакладняла:

«Было гэта тады,
Калі яшчэ я дзявавала,
А ў Крывічах
Пракладвалі чыгунку».

Або:
«Было гэта тады,
Калі мы
З бежанства вярнуліся
На апусцелы свой надзел».

Або:
«Было гэта тады,
Калі цябе, сынок,
Паліцыя забрала
І я, праводзячы, прасіла,
Каб не білі».

Або:
«Было гэта тады,
Калі прыйшлі Саветы,
Калі ў Сібір саслалі
Цётак Соню, Полю
З малышамі,
Свата Анупрэя,
Ганулю-павітуху,
Якая бабіла цябе».

Або:
«Было гэта тады,
Калі з людзьмі
Спалілі немцы Слабаду,
Калі дачушку Верачку
З малым забілі».

Або:
«Было гэта тады,
Калі прынеслі партызаны
Звестку, што ты жыў
І ўзнагароджаны,
І я ўсю ноч праплакала,
Цалуючы той ліст газеты».

Або:
«Было гэта тады,
Калі за лішнія
Калоды пчол
І яблыні
Упаўнаважаны
Хацеў, як кулака,
Застрэліць твайго бацьку,
Пасля чаго мяне ўсю
І скруціла немач».

Відаць, тады,
Глытаючы
Засеўшы ў горле комам
Хлеб чорствы гэтых успамінаў,
Я ўпершыню адчуў
Увесь цяжар жыцця
І марнасць усялякай пісаніны.

***

*Памяці Міхася ЛЫНЬКОВА*

Калі будучыня —
праблематычна
Элегічна,
А сучаснасць —
то ўспыхвае каганцом,
То замірае,—
Мінулае, хоць было хіжым,
Але дало выжыць,—
Ва ўспамінах
Здаецца раем.

Я толькі аднаго знаў чалавека
З галавой,
Аснежанай прадчаснай
белізной,
Які баяўся вяртання
У сваё беспрасветнае ранне.
Хоць на перадавой
І ў смяротным гуле
Не кланяўся кулям.

### НУ І ЦЕМЕНЬ...

— Ну і цемень,
Ну і бездарожжа!
На начлег да вас,
Бабуля, можна!

— Я гляджу. А ты —
Не сын Параскі!
Не! Дык, пэўна, будзеш
Нехта з наскіх,

Што патрапіў
У такую хлюпу
Дабрысці аж
Да маёй халупы.

Размясціся
Хоць на мулкай лаве.
Можа, нейкай
Падрыхтую стравы...

— А я вас, бабуля,
Добра знаю.
Дзе ж унучка —
Каценька малая!

Помню гэты
Ваш парог шчарбаты,
Скрэмзаны
Варожаю гранатай,

Дымную печ,
У якой на дзіва
Куракі для партызан
Пяклі вы...

— Пачакай... Няўжо ты
Той хлапчына,
Што, ратуючы
Пасёлкаўцаў, загінуў!

А ты — жыў!..
Знаць і мая трывога
За цябе, сынок,
Дайшла да Бога,

Што падняў цябе
Амаль з пад крыжа
І памог ўратавацца,
Выжыць.

## ЛІСТКІ З КАЛЕНДАРА




**8 верасня, аўторак**

Гісторыя развіцця беларускага опернага мастацтва непарыўна звязана з імем народнага артыста БССР Ісідара Міхайлавіча Балоціна. Нарадзіўся ён у Бабруйску. З гэтым горадам звязаны першыя музычныя ўражанні, тут ён пазнаёміўся з аматарскім тэатрам. У 1927 годзе Балоцін паступае ў Беларускі музычны тэхнікум. Ён атрымлівае адукацыю ў вядомых рускіх спевакоў, артыстаў Вялікага тэатра СССР В. Цвяткова і А. Баначыча. Пасля заканчэння тэхнікума Ісідар Міхайлавіч быў залічаны ў склад беларускай опернай студыі, у якой ён рыхтуе партыю Звездачота ў оперы «Залаты пеўнік» М. Рымскага-Корсакава.

Выдатнай падзеяй у культурным жыцці Беларусі з'явілася рэарганізацыя ў 1933 годзе опернай студыі ў Беларускі дзяржаўны тэатр оперы і балета. Балоцін быў адным з першых акцёраў, што склалі вакальную трупу тэатра. Ісідар Міхайлавіч выконваў вядучыя партыі амаль ва ўсіх оперных спектаклях. Сярод іх — Альмавіва («Севільскі цырульнік» Дж. Расіні), Ленскі («Яўгеній Анегін» П. Чайкоўскага), Лыкаў («Царская нявеста» М. Рымскага-Корсакава), Саўка Мільгун («У пушчах Палесся» А. Багатырова) і іншыя.

У гады Вялікай Айчыннай вайны І. Балоцін выступаў на многіх оперных сцэнах краіны, а таксама ў рабочых клубах, калгасах, шпіталях, перад беларускімі партызанамі і салдатамі на фронце. Гаворачы аб сцэнічнай дзейнасці спевака ў гэты час, нельга прайсці міма яго працы ў Свярдлоўску, Саратаве і Горкім. У Свярдлоўскім тэатры ён прымаў удзел у оперным спектаклі «Мадмуазель Фіфі» ў ролі фон Эрыха. З вялікім поспехам выступаў Ісідар Міхайлавіч у гэтым жа тэатры ў ролі Рамэо ў оперы «Рамэо і Джульета» Ш. Гуно. Плённай была яго праца ў Горкаўскім тэатры разам з беларускімі артыстамі Л. Александроўскай, Л. Аляксеевай, С. Друкер, А. Арсенкам і інш.

У пасляваенныя гады І. Балоцін значна пашырыў свой оперны рэпертуар. На сцэне беларускага тэатра ён выступае ў ролях Дуброўскага, Фауста, Вадэмона, Вашака і інш. Багаты і разнастайны талент І. Балоціна выявіўся ў камедыйнай партыі пана Дамазы ў оперы «Страшны двор» С. Манюшкі, у гэтай ролі ён выступіў на сцэне Варшаўскай оперы.

Ісідар Міхайлавіч Балоцін валодаў гібкім, выразным голасам, высокай музыкальнасцю, пачуццём музычнага стылю. Майстэрства пераўвасаблення памагала яму паспяхова выконваць партыі самага рознага характару. Балоцін выступаў таксама з разнастайным камерным рэпертуарам, значнае месца ў якім належала рамансам беларускіх кампазітараў і беларускім народным песням.

**М. АЎСЯНАЯ.**

## ДА НАШЫХ СЯБРОЎ І ПРЫХІЛЬНІКАЎ

**Рэдакцыя «Голасу Радзімы» шчыра ўдзячная сваім чытачам, хто застаўся верным газеце, нягледзячы ні на якія фінансавыя праблемы ды іншыя цяжкасці, што спадарожнічалі нам у 1992 годзе.**

**Спадзяёмся, што яны не адмовяцца ад «Голасу Радзімы» і на 1993 год, а можа асабістым прыкладам яшчэ і прыбавяць нам чытачоў, не зважаючы на тое, што кошт падпіскі на газету павялічыўся ў некалькі разоў.**

**Падпісная кампанія пачалася з 10 жніўня.**

**Індэкс «Голасу Радзімы» — 63854, падпісная цана на Беларусі: на месяц — 4 рублі 50 капеек, на тры — 13 рублёў 50 капеек, на 6 — 27 рублёў.**

**Чытачам з іншых дзяржаў СНД паведамляем: усе неабходныя для падпіскі звесткі вы знойдзеце ў дадатковым каталогу. У выпадку ўзнікнення цяжкасцей, асабліва ў аддаленых ад Бацькаўшчыны рэгіёнах, звяртайцеся ў рэдакцыю. Будзем разам шукаць выйсце. Заставайцеся разам з намі, і калектыў рэдакцыі зробіць усё магчымае, каб апраўдаць ваш давер і права ўвайсці ў ваш дом са сваёй інфармацыяй.**

## У ВАШУ КАЛЕКЦЫЮ

# НА МАРКАХ—СІМВАЛЫ РЭСПУБЛІКІ

Гэтую падзею філатэлісты Беларусі чакалі даўно і з нецярпеннем. Урачыстасці некалькі разоў пераносіліся: не былі ў тэрмін аддрукаваны маркі. Нарэшце было аб'яўлена, што 31 жніўня на Мінскім паштамце будзе праводзіцца гашэнне дзвюх паштовых марак Рэспублікі Беларусь спецыяльным штэмпелем «Першы дзень»—гэта значыць з 31 жніўня гэтыя маркі, на якіх герб «Пагоня» і флаг рэспублікі на контурным адлюстраванні карты Беларусі з абазначэннем сталіцы, паступаюць у паўсюднае паштовае абарачэнне. Да гэтай падзеі Міністэрства сувязі і інфарматыкі рэспублікі выпусціла спецыяльны бязмарачны канверт з надпісам «Першы дзень» і паказам дзяржаўных сімвалаў рэспублікі—герба і флага. Гэта першы беларускі канверт такога тыпу.




У Мінску неаднаразова праводзіліся спецыяльныя гашэнні з нагоды розных юбілеяў і дат. Але такога наплыву народу, такой колькасці і філатэлістаў, і проста жадаючых купіць новыя маркі ніколі не было. Аматары марак прыехалі з Магілёва і Гомеля, Баранавіч і Брэста, былі філатэлісты з Прыбалтыкі, Украіны. Чарга ля паштовага акенца, дзе праводзілася гашэнне, не змяншалася з 9 раніцы да 20 гадзін. На гэты раз трэба аддаць належнае работнікам пошты: яны добра падрыхтаваліся да такой важнай падзеі. Тысячы пісем пайшлі ў гэты дзень з Мінскага паштамта ва ўсе куткі свету, і на кожным з іх былі наклеены маркі з гербам і флагам незалежнай Рэспублікі Беларусь. У беларускай філатэліі адкрыта яшчэ адна новая старонка. Сёння ўжо можна гаварыць, што беларуская філатэлія мае свае, чыста беларускія паштовыя сувеніры. У 1991 годзе ўпершыню было праведзена спецыяльнае гашэнне карэспандэнцыі на Мінскім паштамце юбілейным штэмпелем з надпісам «Рэспубліка Беларусь» і адлюстраваннем герба «Пагоня». Праўда, асаблівай папулярнасцю тое гашэнне ў філатэлістаў не карысталася з-за грубай памылкі, дапушчанай работнікамі пошты. Цікавы штэмпель не меў у сваім малюнку неабходнага атрыбута—слова «пошта». Але гэта першы беларускі спецыяльны штэмпель, пачатак філатэліі. Юбілейны штэмпель да 100-годдзя з дня нараджэння Р. Шырмы з надпісам «Мінская пошта» стаў яшчэ адным «родапачальнікам» беларускай філатэліі.

Пакуль выпушчана ўсяго пяць марак беларускай пошты. Не ўсе яны сустрэты з аднолькавым энтузіязмам. Першая марка беларускай пошты з адлюстраваннем крыжа Ефрасінні Полацкай сапраўды выклікае незадаволенасць у філатэлістаў: і каляровы фон маркі, не поўнасцю аддрукаваны па вуглах адлюстравання, і арнамент. Само адлюстраванне крыжа, у якога абрэзана ніжняя частка, і мізэрныя даныя пра крыж, прыведзеныя на марцы,—усё гэта выклікае не вельмі станоўчыя эмоцыі. А можна ж было і колеравы фон зрабіць іншым (не чырвоным), даць поўнасцю адлюстраванне самога крыжа, прывесці даныя пра аўтара-ювеліра, указаць хаця б гады, стагоддзе, калі гэтая рэліквія беларускага народа была зроблена. Магчыма, трэба было запусціць у вытворчасць не марку, а так званы паштовы блок, на якім можна было б размясціць малюнак усяго крыжа. Але марка ёсць, і філатэлісты пасля доўгага чакання (у іншых дзяржавах СНД маркі выдаюцца і хутчэй, і больш) паклалі ў свае альбомы беларускую марку № 1, адкрыўшы тым самым першую старонку беларускай філатэліі. У паштовае абарачэнне першая беларуская марка таксама паступала з гашэннем «Першы дзень». На спецштэмпелі быў надпіс: «Рэспубліка Беларусь» і «Першы дзень». І малюнак арнаменту. Затым паступілі ў паштовае абарачэнне паштовыя знакі—«100 гадоў з дня нараджэння Р. Шырмы.

Аднак гэта не ўсе паштовыя выпускі беларускай пошты. Яшчэ выдадзены набор паштовак аб Мінску з маркай «Пагоня». З такой жа маркай была выпушчана ў 1991 годзе паштовая картка «З Новым годам!». Зусім нядаўна паступілі ў паштовае абарачэнне канверты з надпісам «Віншую», марка на гэтых канвертах—з адлюстраваннем герба Беларусі — «Пагоня».

Варта яшчэ сказаць, што ў сувязі з павелічэннем паштовых тарыфаў старыя канверты пошты СССР не прыгодныя для абарачэння без спецыяльных даплатных штэмпеляў, на якіх указана даплата кошту да поўнага тарыфу. Гэтыя штэмпелі выклікаюць цікавасць у філатэлістаў, тым больш, што на іх напісана «Беларусь. Пошта», а таксама дадзены надпіс лацінскімі літарамі — «BELARUS».

Беларуская філатэлія ўступіла ў новую паласу сваёй гісторыі.

**Леў КОЛАСАЎ.**







Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.



Газета аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку»
Тыраж 5 500 экз.
Індэкс 63854. Зак. 1673.
Падпісана да друку 21.09.1992
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12